

З КАЛЯДАМІ!

# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

3 студзеня 2020 года №1 (1288)

18+

## Вілейскія Дзяды Марозы паказалі свае рэзідэнцыі

старонка 18

Фота Настассі УТКІНАЙ.





## Глядзіце, хто стаў Асобай года-2019 па версіі «Рэгіянальнай газеты»

старонка 2

## Хто зарабляе 330, а хто – 1400 рублёў.

Якую працу і за якія грошы прапануюць у рэгіёне

старонка 3

ISSN 1991–7155




Адсканууйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# Хто стаў Асобай года-2019

**Мы падвялі вынікі нашай традыцыйнай акцыі і гатовыя назваць вам імёны пераможцаў.**

Мы маем чатырох пераможцаў у межах акцыі «РГ». Пераможцаў трох намінацый абірае калектыў рэдакцыі. А вось у адной з намінацый усё залежыць ад дарагіх чытачоў. З гэтай намінацыі і пачнём.

### Выбар чытачоў

Па выніках галасавання, якое мы праводзілі на сайце rh.by да 2 студзеня, пераможцам намінацыі «Выбар чытачоў» стала маладзечанка **Ірына Тархан**. Мы намінавалі Ірыну за прасоўванне актывізму і згуртаванне супольнасці.

Цягам года яна аб'ядноўвала жыхароў свайго двара на разнастайныя імпрэзы. Разам з жыхарамі ладзіла святы, упрыгожвала тэрыторыю. Ірына разам з аднадумцамі падае нам прыклад, як не чакаць, калі хтосьці зробіць тваё жыццё больш яркім і цікавым. Яна сама робіць яго такім для сябе, сваёй сям'і і ўсяго двара.

### Натхненне года

Гэта намінацыя пра тых людзей, якія не толькі робяць нешта важнае. Яны спрыяюць таму, што свет становіцца лепшым, і паказваюць, як яго такім рабіць.

Для нас праца **Эдзіты Бранцэвіч**, выхавальніцы садка №8 у Смаргоні, – натхненне і ўзор. Яе падыход да працы з дзецьмі, уменне выхоўваць любоў да беларускай культуры паказваюць, як рабіць сваю справу настойліва і ў той жа час прыцягальна – гэта тое, чаму мы ўсе можам павучыцца.



Іван Літвіновіч, Асоба года-2019.

Фота wikipedia.org

### Учынак года

Надзвычай важна ў складанай сітуацыі ведаць, што можаш разлічваць на дапамогу. Менавіта гэтым і займаюцца валанцёры атрада «Анёл Паўночны Захад». Яны збіраюцца і дакладна выконваюць справу тады, калі дапамога патрэбная больш за ўсё.

Валанцёры атрада дапамагаюць шукаць зніклых і аддаюць на гэта свой час, веды і сродкі. Ніхто не ведае, у чый дом можа прыйсці бяда. Але ўсім нам спакайней ад таго, што на дапамогу прыйдуць тыя, хто ведае, як і што рабіць.

### Асоба года

Самай галоўнай намінацыяй акцыі з'яўляецца статус Асоба года-2019. Калектыў рэдакцыі вырашыў, што перамогі спартсмена з Вілейкі **Івана Літвіновіча** сталі самай яскравай падзеяй мінулага года.

Іван Літвіновіч стаў чэмпіёнам свету па скачках на батуце ў камандным заліку на чэмпіянаце ў Токіа, а таксама сярэбраным прызёрам у індывідуальных скачках. Гэтым ён заваяваў для нашай краіны ліцэнзію на алімпіяду. На чэмпіянаце Іван атрымаў і спецыяльны прыз «За дакладнасць практыкаванняў».

Мы захапляемся настойлівасцю і працавітасцю спартсмена і называем яго Асобай года-2019. А ўсім чытачам жадаем сваіх бліскучых перамог у Новым годзе!

## Пераможцы акцыі ў мінулыя гады

У **2018** годзе «Прыз глядацкіх сімпатый» узялі **Ганна Холад** і **Валянціна Сідоркіна**.

«Адкрыццё года» – **Алег Кураласаў**. «Натхненнем года» сталі **Іван Дурэйка** і **Міхаіл Міхалевіч**. «Учынак года» атрымаў калектыў Мінскага абласнога драматычнага тэатра.

**Асобай года-2018 стаў Віталь Качаткоў.**

**2017** год. Асобамі года сталі **Алена** і **Ігар Крэйнісы** з Валожыншчыны, якія стварылі прытулак для жывёл. Узнагароду «Натхненне года» ўзяў мастак **Базіната**. «Учынак года» атрымаў **Аляксандр Дарашэвіч** з Астравеччыны, арганізатар прыборкі Сарачанскіх азёраў на Астравеччыне, падчас якой вывезлі 2 500 літраў смецця. У намінацыі «Прыз глядацкіх сімпатый» пераможцу выбіралі праз галасаванне. Першынство атрымала віляйчанка **Жанна Гардынец**.

**2016** год. Асобай года стала арганізатар «Жывой бібліятэкі» ў Маладзечне **Юлія Мароз**. Рэдакцыя вырашыла заснаваць дадаткова дзве намінацыі – «Натхненне года», якую атрымаў невідушчы спявак **Данік Савеня**, і «Учынак года», якім назвалі **Адама Мальдзіса**.

**Асобай года-2015 стаў вілейскі краязнаўца Дзяніс Канецкі.**

Асобай года-**2014** стаў на той момант вучань 11 класа з Маладзечна **Уладзімір Грахоўскі**, які выратаваў дзіця.

**Аддзел інфармацыі.**

# З двара ў Маладзечне скралі арт-аб'ект у выглядзе яблыка

## Пасля яго знайшлі ў сметніцы без ліхтарыка і гірляндаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Каля 22:30 навагодні яблык яшчэ радаваў жыхароў. А потым знік.**

Пра гэта нам паведаміла маладзечанка, актывістка, арганізатар святаў двара **Ірына Тархан**.

– 29 снежня мы аздаблялі двор да Новага года. Упрыгожылі ялінку, а таксама арт-аб'екты – яблык і ровар. Яшчэ каля 22:30 усё было на месцы. А пасля яблык знік разам з дзвюма гірляндамі, якімі быў упрыгожаны, – дзеліцца Ірына.

Цяпер вельмі крыўдна ўсім: і тым, хто гэты яблык рабіў, і тым, хто яго ставіў, і тым, хто проста цешыўся, гледзячы на яго, кажуць жыхары.

Арганізатары звярнуліся ў міліцыю. Цяпер чакаюць вынікаў.

Нагадаем, што двор на вуліцы Скарыны, дзе жыве Ірына Тархан з сям'ёй, вядомы сваім крэатыўным знешнім выглядам і тым, што актывісты ладзяць там святы для суседзяў. На працягу года тут былі Масленіца, Дзень ведаў, свята дзяцінства і «Яблычны пірог», падчас якога жыхары і ўстанавілі арт-аб'ект у выглядзе яблыка. Яго зрабіў жыхар двара **Андрэй Зайцаў**.

Бліжэй да вечара 30 снежня з намі звязаліся жыхары двара і сказалі, што яблык знайшоўся. Арт-аб'ект убачыла ў сметніцы прыбіральшчыца. Яблык быў сапсаваны, а гірлянды і ліхтар з яго акуратна знятыя.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота з асабістага архіва Ірыны ТАРХАН.

Яшчэ ўвечары 29 снежня арт-аб'ект радаваў жыхароў.



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Некалькі вакансій па рэгіёне прапануюць буйныя крамы. Сюды патрэбныя касіры, кур'еры, ахоўнікі.

# Хто зарабляе 330, а хто 1400 рублёў

## Якія вакансіі і заробкі ў рэгіёне

**Якую працу прапаноўвалі ў апошнія дні 2019 года на партале Дзяржаўнай службы занятасці па рэгіёне?**

### У Маладзечне патрэбныя міліцыянеры, інжынеры і нават каваль

На ММЦ у Маладзечне патрэбны сартавальнік матэрыялаў і вырабаў з драўніны. Заробак – ад 400 рублёў. Тых, хто любіць працаваць з жывёламі, чакаюць у Палачанах. У спартыўную школу №2 патрабуюцца конюх, трэнер коней і каваль. Заробак ва ўсіх – ад 330.

Дворніку, што прыйдзе ў «Камунальнік», абяцаюць ад 450, швачкам на швейным прадпрыемстве – ад 330 і ад 460. Шмат спецыялістаў трэба ў Маладзечанскі аддзел дэпартамента аховы – кіроўца, кінолаг і міліцыянер. Усе – ва ўзросце да 28 гадоў і пасля войска. Заробак – ад 750. Сюды ж – электраманцёр з заробкам ад 550 і рабочы – ад 450.

На прадпрыемствы патрэбныя розныя інжынеры – цеплатэхнікі, механікі, па ахове працы, па будаўніцтве. Заробак ад 470 да 800 рублёў. На час дэкрэтнага адпачынку шукаюць дырэктара ў бібліятэку. Заробак – ад 491 рубля.

Кіроўцу аўтамабіля ў аўтапарку гатовыя плаціць ад 900, галоўнаму тэхнолагу на «Амкадор-Унікаб» – ад 1400. Сюды ж трэба слесар па рамонце аўто, кандуктар, электраманцёр. Заробак – ад 500 да 600.

«Вялес-Міт» шукае повара, слесара, грузчыка, рэзчыка мяса, апрацоўшчыка кілбасы. Заробкі ад 500 да 680.

**У тэатр «Батлейка» возьмуць артыста, загадчыка ўчастка, кіраўніка літаратурна-драматычнай часткі, адміністратара. Заробак усім – ад 330.**

У дзіцячую школу мастацтваў патрабуюцца настройшчыкі. Адзін – для язычковых інструментаў, другі – для клавішных. Заробак – ад 330. Бухгалтару на станказаводзе абяцаюць ад 400. Сюды ж патрэбныя фрэзероўшчык, зубарэзчык, аператар станкоў, слесар і шліфавальшчык. Ім усім – ад 500 рублёў. А вось галоўнаму бухгалтару – ад 700.

У Цэнтр сацабслугоўвання возьмуць сядзелку і перакладчыка з мовы жэстаў. Заробак – ад 350 і 370 адпаведна. У сельскагаспадарчыя прадпрыемствы раёна патрэбныя кіроўцы, ветэрынарныя фельчары, заатэхнікі, трактарысты. Заробак – ад 350 да 450.

### Начальнік пошты ў Дубіне Баярскай і паштальён у Валожыне атрымаюць 350

У Вілейскае райспажыўтаварыства патрабуецца аўтаслесар і качагар. Заробак ад 400 і 330 адпаведна. Кіроўца, што пойдзе на грузавік у ДРБУ, можа атрымаць 550, кантралёр-касір у «Еўраторгу» – ад 650, а ў «Дабраноме» – ад 600.

Рабочы ў клубнай сістэме і слесар на ўчастку Даўгінава ў Вілейскай ЖКГ атрымаюць крыху за 300. Больш за апошнія дні года па Вілейцы вакансій не было.

Самыя свежыя вакансіі ў Валожыне – ад 24 снежня. Гэта кантралёр-касір у «Дабраном» за 600 рублёў, начальнік на ўчастак Белпошты ў вёску Дубіна Баярская – за 350, і паштальён у Валожын – за столькі ж.

У Мядзеле ад 30 снежня – дзве вакансіі. Кіраўнік фізвыхавання ў Свірскі дзіцячы садок на 0,25 стаўкі – ад 330 рублёў і загадчык машыннага двара на «Свір-Агра» – ад 500. Ёсць два месцы жывёлаводаў у сельгаспрадпрыемствах «Мядзелаграсэрвіс» і «Нарачанская Ніва». Заробак – ад 330 рублёў.

### У Ашмянах возьмуць у сельскую гаспадарку

Не было свежых вакансій і па Астраўцу. Апошнія – за 24 снежня. Гэта ахоўнікі ў банк – ад 400 рублёў, доктар-стаматолаг у вайсковую часць у Варнянах – ад 650 рублёў. Яшчэ ў вайсковую часць трэба камандзіры аддзялення, выратавальнік пажарны, повар, токар, намеснік начальніка, кіроўца, механікі. Усім абяцаюць ад 600 рублёў.

А вось у Ашмянах ёсць вакансіі ад 30 снежня. Гэта юрысконсульт на дражджавы камбінат – ад 210 рублёў, начальнік участка ў ДЭУ – ад 500. У гімназію патрэбны шэф-повар. Заробак – ад 375. Галоўнаму спецыялісту ў банку абяцаюць ад 449, трактарысту ў сельгаспрадпрыемстве – ад 440. У сельскую гаспадарку Ашмяншчыны патрэбныя жывёлавод, ветэрынарны санітар, галоўны эканаміст, галоўны ветэрынарны доктар, кіроўца, галоўны энергетык, электраманцёр, падсобнік. Заробкі ад 350 (у санітара і жывёлавода) да 744 – у галоўнага эканаміста і ветэрынарнага доктара.

30 снежня ёсць вакансіі і са Смаргоні. На паўстаўкі шукаюць справавода ў садок №15. Заробак – ад 165 рублёў. У «Еўраторг» возьмуць ахоўніка, заробак 580, кур'ера – 300 і кантралёра-касіра – 650.

У ЖКГ Смаргоні патрэбны кіроўца. Заробак – ад 600.

Падрыхтавала **Аксана ЯРАШОНАК.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 26.12.19 | 3.01.20 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0962 | **2.1085** |
| Еўра | 2.3227 | **2.3637** |
| Злоты, 10 | 5.4446 | **5.5508** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3733 | **3.3982** |
| Грыўня, 100 | 9.0155 | **8.8966** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 24.12.19 | 31.12.19 |
| Еўра | 2.3150/3.3350 | **2.3350/2.3800** |
| Долар ЗША | 2.0900/2.1080 | **2.0950/2.1300** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 24.12.19 | 31.12.19 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,87 | **19,87** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,40 | **3,25** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,44 | **7,44** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,15 | **6,15** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 9,80 | **9,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | **15,60** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,90 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,00 | **2,30** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,75 | **1,85** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,10 | **2,10** |
| Агуркі, 1 кг | 4,95 | **5,90** |
| Баклажаны, 1 кг | 7,50 | **7,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,55** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Капуста, 1 кг | 0,45 | **0,45** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 3,90 | **3,95** |
| Перац, 1 кг | 5,90 | **6,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Ананас, 1 шт. | 12,00 | **12,00** |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,90 | **6,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Бананы, 1 кг | 2,70 | **2,70** |
| Вінаград, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Гранат, 1 кг | 4,30 | **4,30** |
| Грэцкі арэх цэлы, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Грушы, 1 кг | 2,90 | **3,20** |
| Ківі, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Лімон, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Хурма, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Чарнаслоў б/к, 1 кг | 4,50 | **6,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,90 | **1,90** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## У пажары загінуў 55-гадовы гаспадар дома

МАЛАДЗЕЧНА

Афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог** расказала нам пра падрабязнасці здарэння.

— Маладзечанскія следчыя працавалі ў вёсцы Загорцы Мясоцкага сельсавета. Расследавалі гібель мужчыны на пажары, што здарыўся ўвечары 27 снежня, — расказала Таццяна.

Па яе словах, загінулы — 55-гадовы гаспадар дома. Яго цела выратавальнікі знайшлі, калі лакалізавалі пажар. Папярэдняя прычына — неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні.

Прызначылі экспертызы. Следчыя праводзяць праверку здарэння.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## За год — сем няшчасных выпадкаў на чыгунцы. Усе са смяротным зыходам

МАЛАДЗЕЧНА

Ад пачатку года ў Маладзечанскім раёне на чыгунцы адбылося сем няшчасных выпадкаў, усе са смяротным зыходам. Сярод пацярпелых ёсць і непаўналетнія.

22 снежня пад коламі электрычкі загінула 31-гадовая жыхарка Маладзечанскага раёна. Жанчыну смяротна траўмаваў электрацягнік каля 16:20 паблізу станцыі Уша.

Асноўнымі прычынамі трагедый часта становіцца ігнараванне грамадзянамі элементарных правілаў бяспечных паводзін і пераход чыгуначных пуцей у забароненых месцах. За падобнае парушэнне можа пагражаць штраф да 50 рублёў.

У канцы года міліцыя Маладзечна і супрацоўнікі Беларускай чыгункі правялі прафілактычную акцыю «Гадзіна пасажыра».

Міліцыянеры праінспектавалі буйную чыгуначную станцыю Уша ў Маладзечанскім раёне.

Каб папярэдзіць правапарушэнні на транспарце і выпадковае траўмаванне грамадзян, міліцыя правяла тлумачальныя гутаркі з пасажырамі, работнікамі Беларускай чыгункі і мясцовым насельніцтвам. Каля 30 чалавек атрымалі памяткі па бяспечных паводзінах на цягніках.

Прафілактычную інфармацыю на працягу гадзіны транслiравалі па гучнай сувязі на тэрыторыі станцыі.

Асаблівую ўвагу ўдзельнікі акцыі надалі пешаходам у навушніках, з мабільнымі тэлефонамі ў руках і тым, хто рухаўся на роварах.

Напрыканцы мерапрыемства супрацоўнікі інспекцыі па справах непаўналетніх адзначылі, што падлеткі лепш за дарослых справіліся з так званым тэстам на валоданне базавымі правіламі бяспекі на аб'ектах павышанай небяспекі.

**Юлія КРУК,**
**РАУС Маладзечна.**

## Зніклага мужчыну з Насілава знайшлі загінулым

МАЛАДЗЕЧНА

25 снежня жыхара Насілава, які знік 22 снежня, знайшлі загінулым.

32-гадовы мужчына тры дні таму сышоў з дому каля 19:00 у невядомым накірунку. Пра знікненне мужа паведаміла жонка.

Мужчыну шукала міліцыя Маладзечна і валанцёры. Знайшлі загінулым у лесе.

Падрабязнасці не паведамляюць.

**Паводле пошукавага атрада «Анёл».**

## У Каменным Логу мытнікі знайшлі машыны, якія шукае Інтэрпол

АШМЯНЫ

Гродзенскія мытнікі ў пункце пропуску «Каменны Лог» знайшлі пазадарожнікі, якія шукае Інтэрпол.

Парушэнне выявілі гэтым летам на беларуска-літоўскай мяжы. Паводле дакументаў, прадстаўленых да мытнага кантролю, у транспартным сродку перамяшчаліся аўтамабільныя запчасткі коштам больш за 7,5 тысячы рублёў.

Фактычна ж унутры ў схованках былі два легкавыя аўтамабілі «Тагёта» і «Лексус».

У ходзе правядзення праверкі мытнікі ўстанавілі, што пазадарожнікі знаходзяцца ў вышуку па лініі Інтэрпола.

Так як вінаватая асоба мела намер ухіліцца ад выплаты мытных плацяжоў у буйным памеры, а гэта каля 80 тысяч рублёў, па факце здзяйснення злачынства будзе прыцягнутая па арт. 231 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Матэрыялы перададзены ў Следчы камітэт для далейшага крымінальнага працэсу.

**Паводле Гродзенскай рэгіянальнай мытні.**



Ілюстрацыйнае фота chefcook.ru

Закаткі, якія гаспадыня захоўвала ў гаспадарчай пабудове, агонь не пашкодзіў.

# Сусед пачуў трэск, падобны да выбуху петардаў

### На Вілейшчыне здарыўся пажар

ВІЛЕЙКА

**30 снежня каля 18:00 здарыўся пажар на Вілейшчыне, у вёсцы Залессе Хаценчыцкага сельсавета. Гарэў хлеў у адным з двароў.**

— Пажар заўважыў сусед, які жыве праз два дамы. Ён выйшаў пакурыць і пачуў трэск, падобны да выбуху петардаў. Падумаўшы, што ў вёсцы ўзрываць петарды няма каму, пайшоў на гукі трэску, заўважыў пажар і выклікаў выратавальнікаў. Гаспадыня была дома, але пажару не заўважыла. На ўсякі выпадак суседзі вывелі яе з дома. Выратавальнікаў жанчына чакала на вуліцы, — расказаў карэспандэнту інжынер інспекцыі нагляду і прафілактыкі Вілейскага РАНС **Дзмітры Кляшняк**.

Калі прыехала падраздзяленне выратавальнікаў, дах на ўсім хляве гарэў адкрытым полымем. Па словах Дзмітрыя Клешняка, гаспадарчая пабудова была падзеленая на дзве часткі. У адной захоўваліся дровы, у іншай – гароднiна, закаткі і старыя рэчы. Электрычнасці ў пабудове не было. Але ў той частцы, дзе захоўвалася гароднiна, была печка, якую гаспадыня нядаўна прапаліла.

У выніку пажару згарэў увесь дах, агонь часткова пашкодзіў дровы і старыя рэчы, што там захоўваліся. Прадукты і закаткі агонь не пашкодзіў.

Папярэдняя прычына – парушэнне эксплуатацыі печкі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## За два дні аўтамабілі збілі двое дзяцей

МАЛАДЗЕЧНА

22 і 23 снежня на дарогах Маладзечна здарыліся аварыі, у якіх пацярпелі дзеці.

22 снежня каля 17:30 36-гадовы маладзечанец на аўтамабілі «Мерсэдэс-Бэнц Е220» ехаў па Грамадоўскай. Паблізу дома №14 наехаў на непаўналетняга пешахода. 12-гадовая дзяўчынка, жыхарка Маладзечна, вучаніца сярэдняй школы №4, перасякала праезную частку па пешаходным пераходзе, злева направа па ходзе руху машыны.

У выніку ДТЗ дзіця з цялеснымі пашкоджаннямі шпіталізавалі ў дзіцячую бальніцу ў Маладзечна.

23 снежня каля 21:50 на Вялікім Гасцінцы паблізу дома №96 24-гадовы маладзечанец ехаў на «Сузукі-Свіфт». Ён рухаўся з боку Мінска да Смаргоні і наехаў на 15-гадовую жыхарку Маладзечна, вучаніцу 9 класа сярэдняй школы №4 дамашняга навучання.

Дзяўчынка пераходзіла праезную частку дарогі справа налева па ходзе руху аўтамабіля на забаранальны сігнал святлафора на рэгулюемым пешаходным пераходзе.

У выніку ДТЗ дзяўчынка атрымала цялесныя пашкоджанні. Яе шпіталізавалі ў рэанімацыю Маладзечанскай ЦРБ.

З мэтай прафілактыкі і недапушчэння ДТЗ з удзелам дзяцей напярэдадні і падчас зімовых школьных канікулаў, Дзяржаўтаінспекцыя Маладзечна сумесна з іншымі службамі ў перыяд ад 16 снежня 2019 года да 12 студзеня 2020 года праводзяць комплекс прафілактычных мерапрыемстваў «Бяспечныя канікулы».

**ДАІ звяртаецца да бацькоў. Прыміце ўсе меры, каб не дапусціць няшчасных выпадкаў з дзецьмі. Будзьце ім прыкладам на дарозе. Не пакідайце іх без нагляду.**

Святлоадбівальныя элементы на вопратцы і абутку дапамогуць кіроўцу загадзя звярнуць на дзіця ўвагу. А значыць, кіроўца зможа прыняць меры для тармажэння або экстраннага прыпынку.

Асаблівая тэма – мабільныя тэлефоны і навушнікі. Дабіцеся таго, каб дзіця, знаходзячыся паблізу або на праезнай частцы, не размаўляла па тэлефоне і не слухала музыку ў навушніках, бо гэта адцягвае яго ўвагу!

Часцей нагадвайце дзецям, як паводзіць сябе на дарозе і ў транспарце. Абавязкова перавозьце дзяцей толькі прышпіленымі рамянямі бяспекі. А для дзяцей малодшага ўзросту выкарыстоўвайце спецыяльныя прылады.

**Сяргей БАРТОШ,**
**ДАІ Маладзечна.**

# Як сабака Аміс двойчы дапамог раскрыць злачынства

**Сабака бяжыць па следзе і ловіць злачынцу. Такая сцэна ёсць у знакамітым і любімым многімі серыяле «Вяртанне Мухтара». Але ў жыцці ўсё зусім не так, як у кіно.**




Фота забяспечана Яраславам ПАДМАСКОЎНЫМ.

Яраслаў Падмаскоўны і службовы сабака Аміс

Быць службовым сабакам – напружаная і адказная праца. У часы Другой сусветнай вайны сабакі змагаліся побач з чалавекам, абараняючы Радзіму. Іх выкарыстоўвалі, каб пракладваць сувязь. Сабакі падрывалі танкі, выцягвалі параненых з поля бою.

У сённяшняй Беларусі службовыя сабакі з'яўляюцца вернымі памочнікамі ў ахове мяжы, пошуках выбуховак, наркотыкаў, людзей. Аб складанасцях прафесіі кінолага распавёў міліцыянер-кінолаг групы затрымання Маладзечанскага дэпартамента аховы Міністэрства ўнутраных спраў **Яраслаў Падмаскоўны**. Ён любіць сваю працу настолькі, што аддае ёй увесь вольны час.

– Я з дзяцінства люблю жывёл. Але звязаць жыццё з гэтай прафесіяй захацелася пасля тэрміновай службы ў памежных войсках, дзе набыў спецыяльнасць кінолага, – прыгадвае Яраслаў.

### Аміс – сапраўдны халерык

**– Кім з'яўляецца для вас гадаванец: напарнікам, сябрам або членам сям'і?**

– Майго сабаку завуць Аміс, што ў перакладзе з французскай азначае сябар. Як і ў людзей, у жывёл ёсць свой характар.

> **Дык вось Аміс – самы сапраўдны халерык. Варта яму толькі выйсці на вуліцу, проста не можа ўседзець на месцы, вечна кудысьці нясецца, не стамляецца гуляць з мячом.**

А так як жыве з намі ў кватэры, яго можна назваць паўнавартасным членам сям'і. Сабака з задавальненнем гуляе з маімі дзецьмі, зімой катае іх на санках. Атрымліваецца вельмі весела і пацешна, да таго ж для сабакі гэта не толькі забаўка, але і занятак па фізічнай падрыхтоўцы.

У першую чаргу Аміс – службовы сабака, напарнік, з якім мы разам патрулюем па горадзе. Яму двойчы ўдалося натрапіць на след і дапамагчы раскрыць злачынства.

### Колькі кінолагаў у Маладзечне

**– Мы ведаем, што гэта не адзіныя заслугі вашага гадаванца.**

– Так, мы з Амісам удзельнічаем у многіх конкурсах. Напэўна, самым значным дасягненнем стала перамога ў адкрытым Міжведамасным спаборніцтве па Паўднёвай акрузе Расійскай Федэрацыі сярод кінолагаў паліцыі.

У красавіку ўдзельнічалі ў нацыянальных спаборніцтвах кінолагаў. Праграма шматбор'я ўключала затрыманне злачынцы, агульны курс дрэсіроўкі і паслушэнства, следавую працу, біятлон, пошук рэчаў і людзей, і, безумоўна, праходжанне паласы перашкод. Мы з Амісам змаглі паказаць сябе на ўсе 100% і занялі першае месца.

**– Ці лічыце вы сваю прафесію незвычайнай?**

– Праца кінолага даволі рэдкая. Напрыклад, у Маладзечне ўсяго чатыры прадстаўнікі гэтай прафесіі.

> **Да таго ж, кіналогія дагэтуль да канца не вывучаная, і калі акунуцца ў яе з галавой, з'яўляецца велізарнае жаданне асвойваць навуку пастаянна.**

### Прафесія не для лянівых

**– Што вам падабаецца ў вашай прафесіі больш за ўсё?**

– Да мяне звяртаецца шмат людзей з просьбай дапамагчы ў дрэсіроўцы.

> **Калі сабакі пачынаюць выконваць каманды, гаспадары літаральна скачуць ад радасці са словамі: «Вы бачылі гэта?! Я сказаў яму сесці, і ён сеў!» Менавіта гэта рэакцыя неацэнная.**



Разам з напарнікам Амісам Яраслаў удзельнічае ў спаборніцтвах. Сёлета яны перамаглі ў нацыянальных спаборніцтвах кінолагаў.

**– Якімі якасцямі павінны валодаць кінолаг?**

– Самае галоўнае – цярпенне. Працэс дрэсіроўкі – досыць карпатлівы занятак, і толькі штодзённыя трэніроўкі змогуць прывесці да жаданага выніку.

Гэта прафесія адназначна не падыдзе для лянівых, таму што выгульваць і займацца сабакам даводзіцца не толькі ў добрае надвор'е, часта мы гуляем пад дажджом або снегам. Ну і вядома – любоў да жывёл, без гэтага проста ніяк.

**– Што вы можаце сказаць людзям, якія заводзяць вялікіх сабак у кватэры?**

– Калі ў вас няма часу, то не заводзьце сабаку. Ёй трэба надаваць вельмі шмат увагі. Не проста выпускаць на вуліцу, каб яна бегала сама па сабе, а гуляць з ёй. Такім чынам можна наладзіць з гадаванцам добры кантакт.

**Кацярына КВАЧОНАК,**
**навучэнка гуртка**
**«Школа журналістыкі».**




# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ВІНШАВАНКА

Маладзечанскае раённае таварыства інвалідаў віншуе з днём нараджэння **Міхаіла Дучко**

Жадаем моцнага здароўя, матэрыяльнага дабрабыту, цеплыні ад родных і блізкіх людзей.

*Ты у нас незаменим.*
*Это мы все знаем.*
*Ведь всегда и в нужный час*
*Ты нас выручаешь.*

**Васіль ТАРКАН, старшыня Маладзечанскага раённага таварыства інвалідаў.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дыскі-штампоўкі (жалеза) R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford Escort, 55 руб. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі для Ford Escort 6 (1995-2000): дзверы ў зборы, капот, фара, заднія ліхтары (універсал), люстэрка, упускны калектар, інжэктар (1.6 Zetec), даждажавік. Усё ў добрым стане, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

### КУПЛЮ

**• АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра альбо абмяняю на Мінск. Еўрарамонт. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Першамайскай, 35 000 рублёў. Т. (8-029) 8785936, (8-029) 7620968.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кубак з вашым фота – 9 руб. Ёсць кубак з відамі Смаргоні – 6 руб. Смаргонь, вул. Танкістаў,8. ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Т. (8-01592) 44717.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

**• БАРАНЫ І АВЕЧКІ ПАРОДЫ ПРЭКОС ЖЫВОЙ ВАГОЙ, 4,50 РУБЛЯ ЗА 1 КГ. ВІЛЕЙСКІ РАЁН. Т. (8-029) 6769359.***

**Іншае**

• Кафля старая польская для печкі. Т. (8-044) 7030445.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*



**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:**

| | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591 |
| **Ашмяны** | -01593 |
| **Валожын** | -01772 |
| **Вілейка** | -01771 |
| **Маладзечна** | -0176 |
| **Мядзел** | -01797 |
| **Смаргонь** | -01592 |



**Рэклама ў «РГ»**
8 (0176) **53-78-04**
**reklama@rh.by**



## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**У вас ёсць магчымасць зрабіць прыемнае родным і блізкім – размясціць віншаванне на старонках нашай газеты!**

Кошт – ад 2,50 рубля.

**Наш адрас:** г. Маладзечна, вул. Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518 (ГЦ «Тройка»)
**Тэл.** (8-0176) **53-78-04**
(8-029) **676-84-20** (8-029) **573-28-47**



Беларуская АЭС, якая будуецца.

# Тарыфы на электрычнасць вырастуць на 9%

**Урад вызначыў новыя тарыфы на электраэнергію, якія пачнуць дзейнічаць ад 1 студзеня.**

Для кватэр з газавымі плітамі цяпер дзейнічае тарыф па аб'ёме спажывання ў 0,1746 рубля за кВт•г, а для кватэр з электраплітамі – 0,1484 рубля за кВт•г. Ад 1 студзеня тарыфы вырастуць да 0,1901 рубля і 0,1616 рубля адпаведна.

Тарыф па двух часавых перыядах цяпер складае: ад 22:00 да 17:00 – 0,1039 рубля за кВт•г, ад 17:00 да 22:00 – 0,2968 рубля за кВт•г. Ад 1 студзеня яны вырастуць да 0,1131 рубля і 0,3232 рубля адпаведна.

Тарыф на электраэнергію па трох часавых перыядах таксама вырасце. Ад 23:00 да 6:00 электрычнасць будзе каштаваць 0,097 рубля за кВт•г (цяпер – 0,0890 рубля), ад 17:00 да 23:00 – 0,2909 рубля (цяпер – 0,2671 рубля), астатні час сутак – 0,1131 рубля (цяпер – 0,1039 рубля).

Ад 1 студзеня вырастуць таксама поўныя тарыфы на электраэнергію. Аднаставачны тарыф вырасце да 0,2090 рубля за 1 кВт•г.

Тарыф па двух часавых перыядах складзе: ад 22:00 да 17:00 – 0,1463 рубля за кВт•г, ад 17:00 да 22:00 – 0,4180 рубля за кВт•г.

Па трох часавых перыядах тарыф будзе наступны. Электраэнергію ад 23:00 да 6:00 будуць адпускаць па цане 0,1254 рубля за кВт•г, ад 17:00 да 23:00 – 0,3762 рубля, астатні час – 0,1463 рубля.

**Аддзел інфармацыі.**

## Лукашэнка звольніў намесніка начальніка Генштаба Узброеных Сіл

**ВАЛОЖЫН**

Указам ад 23 снежня Аляксандр Лукашэнка звольніў намесніка начальніка Генштаба Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь **Андрэя Пасеку** за ўчынкі, якія дыскрэдытуюць званне вайскоўца.

Палкоўнік Андрэй Пасека нарадзіўся ў Валожыне ў 1971 годзе. Вучыўся на вайскоўца ў Санкт-Пецярбургу, служыў ва Узброеных Сілах Беларусі на кіруючых пасадах. У 2001 годзе з чырвоным дыпломам і залатым медалём скончыў камандна-штабны факультэт Вайсковай акадэміі Рэспублікі Беларусь. Працягваў службу ва Узброеных Сілах.

У 2013 скончыў факультэт Генштаба гэтай жа ўстановы. Таксама з чырвоным дыпломам і залатым медалём.

У 2017 годзе Аляксандр Лукашэнка прызначыў яго намеснікам начальніка Генштаба Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

**Паводле pravo.by.**

## У Ашмянах – новы старшыня райвыканкама

**АШМЯНЫ**

26 снежня на гэту пасаду Аляксандр Лукашэнка прызначыў **Уладзіслава Гершгорына.**

Ад 2013 года ён працаваў намеснікам старшыні Слонімскага райвыканкама. Курыраваў пытанні эканамічнага развіцця.

Раней працаваў у райвыканкаме начальнікам аддзела прамысловасці, знешнеэканамічнай дзейнасці і прагназавання ўпраўлення эканомікі.

29 снежня Ашмянскі раённы Савет дэпутатаў аднагалосна зацвердзіў кандыдатуру Уладзіслава Гершгорына.

**Аддзел інфармацыі.**

## Краму зачыняюць, дарога кепская, ліхтары не гараць. На што маладзечанцы скардзяцца ў аблвыканкам

**МАЛАДЗЕЧНА**

Гаворка ідзе пра краму на вуліцы Святаянскай у Маладзечне. Гараджане сцвярджаюць, што ў бліжэйшы час гандлёвы пункт хочуць закрыць. З просьбай паўплываць на неадназначнае рашэнне мясцовая жыхарка **Валянціна Пятроўна** патэлефанавала 28 снежня на «прамую лінію» Мінаблвыканкама.

Жанчына распавяла, што буйны беларускі рытэйлер адкрыў магазін на вуліцы Святаянскай каля трох гадоў таму. Увесь гэты час мясцовыя не маглі нарадавацца: падкупляў асартымент і коштавая палітыка.

– Але нядаўна мы даведаліся, што краму хочуць зачыніць, – патлумачыла Валянціна Пятроўна. – Нас гэта не задавальняе. Большасць мясцовых жыхароў – пенсіянеры, хадзіць далёка за прадуктамі мы не можам. А бліжэйшы гандлёвы пункт знаходзіцца прыкладна за паўтара кіламетра ад мікрараёна.

Таксама жанчына паскардзілася на добраўпарадкаванне пешаходнай дарожкі каля Камсамольскага парку. Яна распавяла, што стан пакрыцця не вытрымлівае ніякай крытыкі, а па вечарах у ваколіцах дарогі не працуюць ліхтары.

Скарга на закрыццё крамы аказалася не адзінай – на «прамую лінію» з гэтай жа праблемай датэлефанавалася яшчэ адна гараджанка.

Намеснік старшыні Мінаблвыканкама **Сяргей Неўмяржыцкі**, які дзяжурыў на «прамой лініі», растлумачыў: калі крама належыць прыватнаму ўласніку, то рашэнне аб адкрыцці ці закрыцці можа прыняць толькі ён. Што тычыцца пешаходнай дарожкі, гэта пытанне вывучаць мясцовыя ўлады.

**Паводле mlyn.by.**

## У Беларусі павысяць хуткасны рэжым на некаторых трасах

**ВІЛЕЙКА**
**МАЛАДЗЕЧНА**
**ВАЛОЖЫН**
**МЯДЗЕЛ**

Павысіць дапушчальную хуткасць прапанавалі на ўчастках дарог Р58 Мінск – Калачы – Мядзел, Р28 Мінск – Маладзечна, М6 Мінск – Гродна і на некаторых іншых, якія не ідуць праз наш рэгіён.

– Ёсць прапанова на 16 участках дадаткова падняць хуткасны рэжым. Спадзяюся, што вынікам працы камісіі стане падтрымка адпаведнага рашэння, – сказаў міністр транспарту і камунікацый **Аляксей Аўраменка** на пасяджэнні Пастаяннай камісіі па бяспецы дарожнага руху пры Савеце Міністраў.

Як паведаміў начальнік УДАІ МУС **Дзмітры Карзюк** па выніках пасяджэння ў Саўміне, хуткасць на прапанаваных участках будзе павышана.

– На 10 з 16 участкаў кампенсацыйныя мерапрыемствы праводзіліся на працягу гэтага года, таму яны гатовыя да таго, каб павысіць хуткасны рэжым без дадатковай інфраструктуры і трат, – растлумачыў Дзмітры Карзюк. – На шасці астатніх участках хуткасны рэжым таксама будзе павышаны без якіх-небудзь праблем для бяспекі дарожнага руху. Усе гэтыя ўчасткі будуць на пастаянным кантролі. Калі сітуацыя раптам будзе мяняцца, мы аператыўна ўнясём карэкціроўкі.

**Паводле government.by.**

| | |
|---|---|
| **1 студзеня** | Новы год |
| **7 студзеня** | Каляды праваслаўныя |
| **8 сакавіка** | Жаночы дзень |
| **12 красавіка** | Вялікдзень каталіцкі |
| **19 красавіка** | Вялікдзень праваслаўны |
| **28 красавіка** | 25-годдзе «Рэгіянальнай газеты» |
| **28 красавіка** | Радаўніца |
| **1 мая** | Дзень працы |
| **9 мая** | Дзень Перамогі |
| **3 ліпеня** | Дзень Незалежнасці |
| **7 лістапада** | Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі |
| **25 снежня** | Каляды каталіцкія |




Фота Настассі УТКІНАЙ.

# Заязджай у Новы год!

| | Студзень | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **Аўт** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Ср** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Чц** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Пт** | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| **Сб** | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Ндз** | 5 | 12 | 19 | 26 | |

| | Люты | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| **Аўт** | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| **Ср** | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| **Чц** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **Пт** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Сб** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Ндз** | 2 | 9 | 16 | 23 | |

| | Сакавік | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Аўт** | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| **Ср** | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Чц** | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| **Пт** | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| **Сб** | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| **Ндз** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

| | Красавік | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **Аўт** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Ср** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Чц** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Пт** | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| **Сб** | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Ндз** | 5 | 12 | 19 | 26 | |

| | Май | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| **Аўт** | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| **Ср** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **Чц** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Пт** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Сб** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Ндз** | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |

| | Чэрвень | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Аўт** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Ср** | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| **Чц** | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Пт** | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| **Сб** | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| **Ндз** | 7 | 14 | 21 | 28 | |

| | Ліпень | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **Аўт** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Ср** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Чц** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Пт** | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| **Сб** | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Ндз** | 5 | 12 | 19 | 26 | |

| | Жнівень | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| **Аўт** | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Ср** | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| **Чц** | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| **Пт** | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| **Сб** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| **Ндз** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |

| | Верасень | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Аўт** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Ср** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Чц** | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| **Пт** | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Сб** | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| **Ндз** | 6 | 13 | 20 | 27 | |

| | Кастрычнік | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| **Аўт** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **Ср** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Чц** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Пт** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Сб** | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| **Ндз** | 4 | 11 | 18 | 25 | |

| | Лістапад | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Аўт** | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| **Ср** | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Чц** | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| **Пт** | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| **Сб** | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| **Ндз** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

| | Снежань | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Аўт** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Ср** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Чц** | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| **Пт** | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Сб** | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| **Ндз** | 6 | 13 | 20 | 27 | |




# тэлетыдзень

**6-12 студзеня**

Передрук праграмы забаронены.
У праграме магчымыя змяненні.

**27 каналаў ад «Рэгіянальнай газеты»**


● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# «Залаты глобус»-2020



Фота scarfilm.org.

**77-я цырымонія ўручэння ўзнагарод прэміі «Залаты глобус» за заслугі ў галіне кінематографа і тэлебачання за 2019 год адбудзецца 5 студзеня 2020 года. Намінантаў абвясцілі 9 снежня 2019 года. Вядучым у пяты раз стане брытанскі комік Рыкі Джэрвейс.**

Ганаровай прэміі імя Сесіл Б. Дэ Міля за жыццёвыя дасягненні ў галіне кінематографа будзе ўдастоены акцёр, рэжысёр, прадзюсар, уладальнік васьмі «Залатых глобусаў» Том Хэнкс. Прэмію імя Кэрал Бёрнэт за жыццёвыя дасягненні ў галіне тэлебачання ўручаць актрысе і тэлевядучай Элен Дэджэнерас.

Прэмію прысуджае Галівудская асацыяцыя замежнай прэсы. Лічыцца, што «Залаты глобус» з'яўляецца своеасаблівай рэпетыцыяй перад цырымоніяй уручэння «Оскара».

## Кінематаграфічная катэгорыя

У катэгорыі «Гульнявае кіно» больш за ўсё намінацый у «Шлюбнай гісторыі» рэжысёра Ноа Баўмбаха. Па пяць намінацый у «Ірландца» і «Аднойчы ў… Галівудзе». «Джокер» атрымаў чатыры намінацыі. Адразу чатыры фільмы намінаваныя ў трох намінацыях – гэта «1917», «Дастаць нажы», «Паразіты», «Рокетмэн».

Адным з намінантаў у катэгорыі за лепшую мужчынскую ролю ў драматычным фільме стаў Крысціян Бейл, які сыграў у карціне «Форд супраць Ферары». За прэстыжную ўзнагароду таксама пазмагаюцца Джонатан Прайс («Два таты»), Антоніа Бандэрас («Боль і слава»), Адам Драйвер («Шлюбная гісторыя») і Хаакін Фенікс («Джокер»).

У намінацыю за лепшую жаночую ролю ў драматычным фільме патрапілі Сінція Эрыва («Гарыет»), Скарлет Ёхансан («Шлюбная гісторыя»), Сірша Ронан («Маленькія жанчыны»), Шарліз Тэрон («Скандал»), Рэнэ Зэлвэгер («Джудзі»).

## Тэлевізійная катэгорыя

У тэлевізійнай катэгорыі больш за ўсё намінацый у трох міні-серыялаў – «Карона», «Чарнобыль», «Неверагоднае».

Упершыню на «Залаты глобус» намінаваны серыял, створаны новым стрымінгавым сэрвісам кампаніі Apple. «Ранішняе шоу», у якім зняліся Джэніфер Эністан і Стыў Карэл, можа ўзяць узнагароду ў намінацыі «Лепшы тэлевізійны серыял (драма)».

За намінацыю «Лепшы акцёр у драматычным тэлесерыяле» паспрачаюцца Браян Кокс («Спадкаемцы»), Кіт Харынгтан («Гульня тронаў»), Рамі Малек («Містар Робат»), Тобіяс Мэнзіс («Карона»), Білі Портэр («Поза»).

У аналагічнай жаночай катэгорыі Рыз Уызэрспун і Джэніфер Эністан, якія разам здымаліся ў «Ранішнім шоу», будуць змагацца за ўзнагароду. Канкурэнцыю ім складуць Джодзі Комэр з «Забіваючы Еву», Алівія Колман («Карона») і Ніколь Кідман («Вялікая маленькая хлусня»).

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**





## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 6 ЯНВАРЯ**

**7.00, 15.55, 18.55, 21.05, 1.20** «Погода» + «Эрана».
**7.10, 16.05** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ИЛИ МЕЧТА».**
**9.50, 19.00** Х/ф **«РЕНУАР».**
**10.45** Д/с «Китайский Новый год».
**11.15** Х/ф **«ЗВЕЗДНЫЕ ВОЙНЫ. ПОСЛЕДНИЕ ГЕРОИ».**
**13.50, 20.00** Т/с **«МИСТЕР РОБОТ».**
**14.50** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**16.35** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**17.20** Х/ф **«НЕ МОЖЕТ БЫТЬ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Т/с **«СВИДАНИЯ».**
**22.10** Х/ф **«ХОРИСТЫ».**
**23.45** Х/ф **«ИВАН ВАСИЛЬЕВИЧ МЕНЯЕТ ПРОФЕССИЮ».**

**ВТОРНИК, 7 ЯНВАРЯ**

**7.00, 15.25, 19.00, 21.05, 0.40** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35, 15.30** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«ДЕД МОРОЗ. БИТВА МАГОВ».**
**9.40, 19.05** Х/ф **«РЕНУАР».**
**10.35** Д/с «Китайский Новый год».
**11.00** Х/ф **«МОСКВА СЛЕЗАМ НЕ ВЕРИТ».**
**13.30, 20.00** Т/с **«МИСТЕР РОБОТ».**
**14.20** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**15.35** «Мульт-парад».
**16.20** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**16.45** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**17.30** Х/ф **«МИМИНО».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Т/с **«СВИДАНИЯ».**
**22.10** Х/ф **«МАРСИАНИН».**

**СРЕДА, 8 ЯНВАРЯ**

**7.00, 15.10, 19.00, 21.05, 0.30** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35, 15.15** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«ВОСЕМЬ ПОДРУГ ОУШЕНА».**
**9.30** Х/ф **«РЕНУАР».**
**10.25** Д/с «Китайский Новый год».
**11.00** Х/ф **«ВОКЗАЛ ДЛЯ ДВОИХ».**
**13.20, 20.00** Т/с **«МИСТЕР РОБОТ».**
**14.10** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**15.20** «Мульт-парад».
**16.30** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**17.20** Х/ф **«ИДЕАЛЬНЫЕ НЕЗНАКОМЦЫ».**
**19.05** Т/с **«ДЕТЕКТИВ РЕНУАР».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Т/с **«СВИДАНИЯ».**
**22.10** Х/ф **«ПОКРОВСКИЕ ВОРОТА».**

**ЧЕТВЕРГ, 9 ЯНВАРЯ**

**7.00, 14.55, 19.00, 21.05, 0.10** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35, 15.00** «Юморинка».
**7.40 Муз/ф «Щелкунчик и четыре королевства».**
**9.20, 19.05** Х/ф **«РЕНУАР».**
**10.15** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**10.35** Д/с «Китайский Новый год».
**11.00** Х/ф **«МОЙ ЛАСКОВЫЙ И НЕЖНЫЙ ЗВЕРЬ».**
**13.00, 20.00** Т/с **«МИСТЕР РОБОТ».**
**13.50** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**15.05** «Мульт-парад».
**16.05** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**16.50** Х/ф **«ВЫСОКИЙ БЛОНДИН В ЧЕРНОМ БОТИНКЕ».**
**18.25** «Готовь как шеф».
**18.50** «Фешн is my профешн».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Т/с **«СВИДАНИЯ».**
**22.10** Х/ф **«МИР ЮРСКОГО ПЕРИОДА».**

**ПЯТНИЦА, 10 ЯНВАРЯ**

**7.00, 14.55, 18.55, 21.05, 1.45** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35, 15.00** «Юморинка».
**7.40** «Короткое замыкание».
**9.20, 19.00** Х/ф **«РЕНУАР».**
**10.10** Д/с «Китайский Новый год».
**10.30** Х/ф **«МАРСИАНИН».**
**13.00, 20.00** Т/с **«МИСТЕР РОБОТ».**
**13.50** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**15.05** «Мульт-парад».
**16.10** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**16.55** Х/ф **«МАРЛИ И Я».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Т/с **«СВИДАНИЯ».**
**21.35** Х/ф **«ПАДЕНИЕ».**
**23.35** Х/ф **«ОСТРОВ».**

**СУББОТА, 11 ЯНВАРЯ**

**7.00, 14.55, 18.55, 21.15, 1.45** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт- парад.
**7.50** Х/ф **«12 СТУЛЬЕВ».**
**10.20** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**10.45** Х/ф **«ОСТРОВ».**
**12.55** Х/ф **«ПОСЛЕДНИЙ БОГАТЫРЬ».**
**15.00** «Смотрим всей семьей». Мультфильм «Сердитые ребята».
**16.35** Х/ф **«ХОРИСТЫ».**
**18.20** «Не только о моде…».
**19.00** Х/ф **«ДО ВСТРЕЧИ С ТОБОЙ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«ОНО».**
**0.05** Х/ф **«ШАФТ».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 12 ЯНВАРЯ**

**7.00, 14.55, 18.55, 21.05, 0.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мультфильмы «Сердитые ребята».
**8.45** Х/ф **«ЧАС ПИК».**
**10.25** «Готовь как шеф».
**10.50** «Законы привлекательности».
**11.35** Х/ф **«ИДЕАЛЬНЫЕ НЕЗНАКОМЦЫ».**
**13.15** Х/ф **«ЛЕГКОЕ ПОВЕДЕНИЕ».**
**15.00** «Смотрим всей семьей». «Легенда Зорро».
**17.15** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**18.10** Т/с **«КАСЛ».**
**19.00** Х/ф **«ЧУДО».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЗНАКОМЬТЕСЬ, ДЖО БЛЭК».**



## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 6 ЯНВАРЯ**

**6.30** Х/ф **«ЛЕГЕНДА ЗОРО».**
**8.40** Х/ф **«ЧЁРНАЯ МОЛНИЯ».**
**10.25** Х/ф **«ПОДАРОК С ХАРАКТЕРОМ».**
**12.35** Мая радзіма.
**13.00** Х/ф **«ДЕНЬ РАДИО».**
**14.45, 18.00, 22.15** Мажорный лад.
**15.00** Новости БЖД.
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Свет души.
**19.45** Профилактика краж дачного имущества.
**20.15** Х/ф **«30 СВИДАНИЙ».**

**ВТОРНИК, 7 ЯНВАРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.15, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15, 19.15** По правилам таможни.
**7.20, 19.35** Поздравление с Рождеством.
**8.25** Профилактика краж дачного имущества.
**13.00** Х/ф **«ДЖУНГЛИ ЗОВУТ! В ПОИСКАХ МАРСУПИЛАМИ».**
**15.10** Х/ф **«ВСЁ ИЛИ НИЧЕГО».**
**17.10** Х/ф **«БАБЛО».**
**19.20** Новости БЖД.
**20.15** Х/ф **«НЕ ИДЕАЛЬНАЯ ЖЕНЩИНА».**
**22.15** Мажорный лад.

**СРЕДА, 8 ЯНВАРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 21.50** Афиша.
**7.00** Свет души.
**7.35, 22.15** Мажорный лад.
**8.00** Будьте здоровы.
**8.20** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**10.00** Х/ф **«ИМЯ».**
**13.00** Х/ф **«БАРХАТНЫЕ РУЧКИ».**
**14.50** Х/ф **«ДРУГ НЕВЕСТЫ».**
**16.45** Х/ф **«ИНСТРУКЦИИ НЕ ПРИЛАГАЮТСЯ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.20** Театральная гостиная.
**20.30** Музыкальная открытка.

**ЧЕТВЕРГ, 9 ЯНВАРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.15, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15, 19.15** Мая Радзіма.
**8.25** Новости БЖД.
**13.00** Х/ф **«ДЕНЬ СУРКА».**
**15.10** Х/ф **«БАНДИТКИ».**
**17.10** Х/ф **«SUPERЗЯТЬ».**
**19.30** А вы знаете?
**20.15** Х/ф **«АГЕНТ117. МИССИЯ В РИО».**
**22.15** Мажорный лад.

**ПЯТНИЦА, 10 ЯНВАРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00** Х/ф **«ИГРУШКА».**
**8.40** А вы знаете?
**8.45** Х/ф **«ДЖУНГЛИ».**
**13.00** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК».**
**14.20** Х/ф **«ХОТТАБЫЧ».**
**15.50** Х/ф **«ИРОНИЯ СУДЬБЫ. ПРОДОЛЖЕНИЕ».**
**17.30** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ПРЕТ-А-ПОРТЕ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**19.20** Волшебная книга МЧС.
**19.30** Таланты края.
**19.40** Будьте здоровы.
**20.20** Х/ф **«БЕЗ ТОРМОЗОВ».**
**22.20** Мажорный лад.

**СУББОТА, 11 ЯНВАРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.30, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.30, 19.20** Реликвия: сохраненные ценности.
**8.40, 16.25, 21.20** Новости БЖД.
**13.00** Х/ф **«ИЗ 13 В 30».**
**14.45** Х/ф **«МОШЕННИКИ».**
**16.40** А вы знаете?
**16.50** Х/ф **«КРАСОТКА НА ВСЮ ГОЛОВУ».**
**20.30** Музыкальная открытка.
**21.35** По правилам таможни.
**21.45** А знаете ли вы?
**22.20** Мажорный лад.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 12 ЯНВАРЯ**

**6.30** Х/ф **«ГРИНЧ».**
**8.05** Х/ф **«ЗАКОЛДОВАННАЯ ЭЛЛА».**
**10.00** Х/ф **«КРОЛИК ПИТЕР».**
**11.35** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК».**
**13.15** Х/ф **«КОМАНДА МЕЧТЫ».**
**14.40** Х/ф **«ЗАМУЖ НА 2 ДНЯ».**
**16.15** Х/ф **«БАРМЕН».**
**18.15** Х/ф **«БАБУШКА ЛЁГКОГО ПОВЕДЕНИЯ».**
**19.45** Х/ф **«ВСЁ ПУТЁМ».**
**21.30** Х/ф **«АФЕРИСТЫ ПОНЕВОЛЕ».**

## Беларусь 1

**6.50** Х/ф **«ХОЧУ БЫТЬ СЧАСТЛИВОЙ».**
**8.20** Клуб редакторов.
**9.00, 12.00, 15.00** Новости.
**9.10** «Арсенал». Программа об армии.
**9.40** Истории спасения.
**10.10** «Все за стол!».
**10.55** Родные люди.
**11.15, 12.35** Х/ф **«ПРИЛИЧНАЯ СЕМЬЯ СДАСТ КОМНАТУ».**
**12.10** Новости. Центральный регион.
**13.35** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.
**15.10** Твой город.
**15.30** Вокруг планеты.
**16.15** Маршрут построен.
**16.45** Х/ф **«НОТЫ ЛЮБВИ».**
**19.55** «На вылет!». Развлекательно-интеллектуальное шоу.
**20.40** Навіны надвор'я.
**21.00** Главный эфир.
**22.05** Х/ф **«ВЫШЕ ТОЛЬКО ЛЮБОВЬ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**
**8.30** Т/с **«ПИНГВИНЫ ИЗ МАДАГАСКАРА».**
**9.15, 19.35** Телебарометр.
**9.20** «Секретный миллионер». Социальное реалити-шоу.
**10.20** «Барышня-крестьянка». Реалити-шоу.
**11.10** «До свидания». Реалити-шоу.
**11.55** «Мир наизнанку. Бразилия». Трэвел-шоу.
**12.45** Х/ф **«ИЗГОЙ».**
**15.05** «Папа попал». Реалити-шоу.
**17.15** «Когда мы дома «. Скетчком.
**17.45** Х/ф **«КАК ОТДЕЛАТЬСЯ ОТ ПАРНЯ ЗА 10 ДНЕЙ».**
**20.10** «Орел и Решка. Спецвыпуск». Трэвел-шоу.
**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.
**21.15** Х/ф **«БЕДНАЯ БОГАТАЯ ДЕВОЧКА».**
**22.45** «Супержена». Реалити-шоу.
**23.40** «Третий лишний». Реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».
**8.00, 14.00, 20.15** Навіны культуры.
**8.20, 14.15, 20.35** «Гэты дзень».
**8.25** «Василиса Прекрасная». Мультфільм.
**8.40** «Дзеці Дон Кіхота». Мастацкі фільм.
**10.00** «Наперад у мінулае».
**10.25** «Беларуская кухня». Страва з куранят з агрэстам.
**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».
**11.45** «Трое ў лодцы, калі не лічыць сабаку». Мастацкі фільм.
**14.20** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.
**15.00** «Першая пальчатка». Мастацкі фільм.
**16.20** «Пясняр. Сэрцам і думамі». Дакументальны фільм памяці Уладзіміра Мулявіна.
**17.00** Пётр Елфімаў. «Незабыўнае». Лепшае з творчай спадчыны ансамбля «Песняры».
**18.40** «Пунсовы камень». Мастацкі фільм.
**20.00** «Архітэктура Беларусі».
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана». Мастацкі фільм [СТ].

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.
**7.10** «Здоровье».
**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».
**9.10** «Воскресная проповедь».
**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».
**9.45** Х/ф **«НЕ МОЖЕТ БЫТЬ!».**
**11.30** Х/ф **«САМОГОНЩИКИ».**
**11.55** «Видели видео?».
**14.10** ОНТ представляет: «Народная марка».
**16.20** «Точь-в-точь».
**18.30** «Клуб Весёлых и Находчивых». Высшая лига. Финал.
**20.00** «Контуры».
**21.20** «Клуб Весёлых и Находчивых». Высшая лига. Финал. Продолжение.
**22.45** ОНТ представляет: «Спортклуб».
**23.05** «Что? Где? Когда?». Финал зимней серия игр.
**0.45** «Новогодняя ночь».

## СТВ

**6.30** «Секретные территории».
**8.15** Документальный проект.
**9.10** «Минтранс».
**10.00** «Добро пожаловаться».
**10.30** «Большой город».
**11.05, 20.35** Документальный спецпроект.
**11.50, 13.50** Т/с **«МАЙОР И МАГИЯ».**
**13.30, 16.30** Новости «24 часа».
**16.40** День «Самых шокирующих гипотез».
**19.30** «Неделя».
**22.15** «Неделя спорта».
**22.45** «Засекреченные списки».
**0.15** «Анекдот Шоу с Вадимом Галыгиным».

## Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».
**6.10** «Беларусь сегодня».
**6.40, 8.55** Мультфильмы.
**7.50** «Культ/туризм».
**8.20** «Еще дешевле».
**9.25** «ФазендаЛайф».
**10.00, 16.00** Новости.
**10.15** «Наше кино. История большой любви».
**10.45, 16.15, 19.30** Т/с **«АННА ГЕРМАН. ТАЙНА БЕЛОГО АНГЕЛА».**
**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».
**23.05, 1.00** Т/с **«ВАНГЕЛИЯ».**

## НТВ-Беларусь

**6.15** «Астропрогноз».
**6.20** Спорт-микс.
**6.35** Terra incognita. Беларусь неизвестная.
**7.00** «Тело человека».
**7.30** «Дача».
**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».
**8.20** Родные люди.
**8.35** Премьера. Танцевальный спектакль Аллы Духовой «И приснится же такое...».
**10.20** Т/с **«ВТОРОЙ УБОЙНЫЙ».**
**12.00** Х/ф **«ЧУЖОЕ ЛИЦО».**
**13.55** «Поедем, поедим!».
**14.15** Х/ф **«ПОЕЗД НА СЕВЕР».**
**16.20** За гранью.
**16.40** «Следствие вели…».
**19.25** «Звезды сошлись».
**20.45** Ты не поверишь!
**21.15** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.
**21.45** Х/ф **«ГАРАЖНЫЙ ПАПА».**
**23.25** Т/с **«УЧАСТКОВЫЙ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ВЕРНОСТЬ».**
**10.15** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».
**11.10** ПРЕМЬЕРА. «Устами младенца».
**12.00** Х/ф **«ВРЕМЯ СОБИРАТЬ».**
**13.50, 21.40** Т/с **«НА КРАЮ».**
**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.
**22.50** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.
**23.30** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10** Семь лет в Тибете. **9.10, 2.30** Хеллбой: Герой из пекла. **11.40, 4.20** Хеллбой II: Золотая армия. **13.45** Красавица и чудовище. **15.45** Белоснежка и охотник. **18.00** Люди в чёрном. **19.40** Люди в чёрном 2. **21.10** Люди в чёрном 3. **23.00** Очень плохие мамочки. **0.45** Идеальный побег.

### TV1000 ACTION

**7.10** Три икса 2: Новый уровень. **8.55** Голодный кролик атакует. **10.45** Вспомнить всё. **12.45** Посылка. **14.45** Убить Билла. **16.40** Убить Билла 2. **19.05** Телохранитель киллера. **21.10, 5.10** Штурм Белого дома. **23.30** Истерия. **1.15** Добро пожаловать в Zомбилэнд. **3.05** Отряд особого назначения.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.05** Любовь в большом городе. **7.50** Любовь в большом городе 2. **9.40** Любовь в большом городе 3. **11.20** Десять негритят. **13.45** Тайна печати дракона. **15.55** Как я стал русским. **17.40** Танки. **19.20** Пятница. **20.55, 5.30** Хоттабыч. **22.35** Училка. **1.15** Дуэль. Пушкинъ – Лермонтовъ. **3.55** Человек из будущего.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.15** Х/ф **«ТЕМНЫЙ МИР». 12.30** Х/ф **«ТЕМНЫЙ МИР: РАВНОВЕСИЕ». 14.30** Х/ф **«ИГРА ЭНДЕРА». 16.45** Х/ф **«ХРОНИКИ РИДДИКА». 19.00** Х/ф **«ОХОТНИК ЗА ПРИШЕЛЬЦАМИ». 21.00** Х/ф **«ГОСТЬЯ». 23.30, 0.30, 1.30, 2.15, 3.00, 3.45, 4.30** Т/с **«ВИКИНГИ». 5.15, 5.45** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 13.00, 4.00, 5.00** Т/с **«БИТВЫ БОЖЬИХ КОРОВОК». 14.00, 15.00** Т/с **«БРАК ПО ЗАВЕЩАНИЮ». 20.00, 21.00** Т/с **«ПОБЕДНЫЙ ВЕТЕР, ЯСНЫЙ ДЕНЬ». 22.00, 23.00** Т/с **«ВЛЮБЛЕННЫЕ ЖЕНЩИНЫ». 6.00, 7.00** Т/с **«КУРОРТНЫЙ РОМАН 2».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.00** Х/ф **«ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ КИЛЛЕРА». 3.20** Х/ф **«1+1». 5.30** Х/ф **«2+1». 7.45** Х/ф **«ВСЕ ИЛИ НИЧЕГО». 10.00** Х/ф **«МУВИ 43». 11.50** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИКИ». 13.45** Х/ф **«50 ПЕРВЫХ ПОЦЕЛУЕВ». 15.40** Х/ф **«КРОВЬЮ И ПОТОМ: АНАБОЛИКИ». 18.10** Х/ф **«КАБЕЛЬЩИК». 20.05** Х/ф **«МАМА ДАРАГАЯ!». 21.45** Х/ф **«НЕРЕАЛЬНАЯ ЛЮБОВЬ». 23.20** Х/ф **«НИНДЗЯ ИЗ БЕВЕРЛИ ХИЛЛЗ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.00, 0.55, 1.50, 2.40, 4.00, 4.50** Черные кошки. **5.35** Шерлок: Шесть Тэтчер. **7.15** Шерлок: Ложный детектив. **9.05** Шерлок: Последнее дело. **11.00, 11.55, 12.55, 13.55, 14.55, 15.55, 16.55, 17.55, 18.55, 19.55** Мёртв на 99%. **21.00, 21.55, 22.50, 23.50** Беги!

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.10** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.15** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **9.00** Т/с **«ЕРАЛАШ». 9.45** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.10** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **10.30** Мультфильмы «УТИНЫЕ ИСТОРИИ». **10.50** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **11.25** Шоу «САРАНХЭ». **12.00** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 14.30** Х/ф **«СТРАНА ЧУДЕС». 15.55** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК: ЧЕРЕЗ ВСЕЛЕННЫЕ». 17.55** Шоу «ФОРТ БОЯРД». **19.40** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.00** Х/ф **«ПЛОХИЕ ПАРНИ 2». 23.40** «КВН. ПА-НАШАМУ». **0.30** Х/ф **«ПАПА-ДОСВИДОС». 2.20** Скетч-шоу «ДАЕШЬ МОЛОДЕЖЬ». **4.00** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Теннис. WTA. Брисбен. Финал. **9.00** Тренировочный день. **9.30** Теннис. WTA. Окленд. Финал. **11.30** Гандбол. Чемпионат Европы. Мужчины. Хорватия – Беларусь. **13.00** Гандбол. Чемпионат Европы. Мужчины. Венгрия – Россия. **14.35, 22.05** Биатлон. Кубок мира. Оберхоф. Масстарт. Женщины. **15.30** Баскетбол. Единая лига ВТБ. Цмокі-Мінск – Автодор (Саратов). 3, 4 ч. **16.30, 23.05** Биатлон. Кубок мира. Оберхоф. Масстарт. Мужчины. **17.10** Спорт-центр. **19.50** Футбол. Чемпионат Англии. Астон Вилла – Манчестер Сити. В перерыве Спорт-центр. **21.20** Итоги недели.

### EUROSPORT

**0.00** Санный спорт. Кубок мира. Альтенберг. Двойки. 1-я попытка. **0.30** Санный спорт. Кубок мира. Альтенберг. Двойки. 2-я попытка. **1.00, 4.30** Ралли-рейд. Дакар. День отдыха. **1.35, 17.15, 17.50** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Валь-ди-Фьемме. Мужчины. HS 135. **2.30** Биатлон. Кубок мира. Оберхоф. Женщины. Эстафета. **3.30** Биатлон. Кубок мира. Оберхоф. Мужчины. Эстафета. **5.00** Фристайл. Кубок мира. Фон-Ромё. Слоупстайл. **6.00** Лыжные гонки. Кубок мира. Дрезден. Мужчины и женщины. Спринт. Свободный стиль. **7.00, 13.30, 21.35** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Валь-ди-Фьемме. HS 134. **7.30** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Валь-ди-Фьемме. Гонка преследования. **8.00** Теннис. Australian Open-2019. Обзор. **9.00** Теннис. ATP 250. Аделаида. Первый день. Прямая трансляция. **11.00, 19.45** Горные лыжи. Кубок мира. Альтенмаркт-Цаухензее. Женщины. Комбинация. Супергигант. **12.25** Горные лыжи. Кубок мира. Адельбоден. Мужчины. Слалом. 1-я попытка. **14.30** Биатлон. Кубок мира. Оберхоф. Женщины. Масс-старт. Прямая трансляция. **15.25** Горные лыжи. Кубок мира. Адельбоден. Мужчины. Слалом. 2-я попытка. **16.30** Биатлон. Кубок мира. Оберхоф. Мужчины. Масс-старт. Прямая трансляция. **20.30** Горные лыжи. Кубок мира. Альтенмаркт-Цаухензее. Женщины. Комбинация. Слалом. **22.00** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Валь-ди-Фьемме. Командный спринт. **22.45** Теннис. ATP 250. Аделаида. Первый день.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 6.40, 10.40** Советы юриста. **7.20, 13.10, 14.20, 18.30** Наезд! **7.30, 8.45, 9.20, 9.55, 0.35** Автовинтаж. **8.00, 1.45, 2.15, 2.50** Следующая остановка – Северный полюс. **8.35, 10.25, 17.30, 1.35** Обновление. **11.20, 11.50, 19.30, 19.55, 22.50, 23.15** Гаражная команда. **12.15, 20.25, 23.45, 4.05** Покорители Азии. **12.50, 20.55, 0.15, 4.35** Легенды автопрома. **13.20, 14.35** Комплектация. **13.50, 15.05** Норильск – Диксон. Есть рекорд! **15.40, 21.45, 5.20** Вечер с Пикуленко. **16.20, 22.30** Тайный покупатель. **16.40, 17.40, 18.40** Металлоломщики. **21.15, 4.50** Резьба по стали. **1.05** От Кавказа до Аравии. **3.20, 3.35** Работяги. **3.50** Хорошо забытое.

### EXPLORE

**6.00, 6.45, 7.30, 8.20, 9.10** Большое рыболовное состязание. **9.55** Речные чудовища. **10.50** Строительство гигантов. **11.40, 3.45, 4.40** Короли разрушения. **12.30, 13.20, 14.10** Выживание в лесу. **15.00, 15.25** Охота на оленей. **15.45** Охотники на морских ежей. **16.35, 17.20, 18.10, 18.55, 19.45, 20.30, 21.20, 22.05, 22.55, 23.40, 2.05, 2.55** Австралийские золотоискатели. **0.25, 1.15** Уникальные дома из дерева. **5.35** Гараж: Последний приют.

### HISTORY

**6.30, 5.25** Музейные тайны. **7.15** Невероятные изобретения. **8.10** Мифы и чудовища. **9.05, 10.05, 10.55** Запретная история. **11.55, 12.50** Коварная Земля. **13.50, 14.45, 15.35, 16.30, 17.20, 18.15** Тайны британских замков. **19.05** Китай. Тайны Запретного города. **20.05, 21.00** Генрих и Анна: любовники, изменившие историю. **21.55** Тридцатилетняя война – Железный век. **23.00** Забытые королевства Южной Америки. **0.10** Титаник: истории из глубины. **1.05** Военные заводы. **2.00, 2.25** Родовые проклятья. **2.55, 3.50, 4.40** Мифические существа.

### NATURE

**6.00** Мир природы: познакомьтесь с обезьянами. **6.55** Мир природы – черные мамбы. **7.55, 8.50** 24 часа на Земле. **9.45, 10.40, 11.35, 18.35** Великая рифтовая долина – дикое сердце Африки. **12.30** Суперветеринар. **13.20, 13.45** Уличный ветеринар. **14.15** Ветеринар из глубинки. **15.00** Мир природы – Лобо – волк, который изменил Америку. **15.55, 16.50, 17.45** Удивительное семейство псовых. **19.30** Тайная жизнь слонов. **20.30** Огромные звери: последние из великанов. **21.25** Суровая Австралия. **22.10** Земля больших кошек. **23.05, 23.30, 23.55, 0.20, 0.45** Природа в кадре. **1.10, 2.00** Жуткие, настоящие и странные. **2.50, 3.35** Анатомия крупнейших животных. **4.25** Ветеринар из Йоркшира. **5.15, 5.35** Путешествие по паркам.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Самые удивительные фотографии National Geographic. **6.25, 6.50, 7.20** Зона строительства. **7.45, 8.30** Остров бунтарей. **9.15** Золото в холодной воде. **10.00** Суперкар со свалки. **10.45, 1.40, 2.25** Авто – SOS. **11.30** Внутри невероятной механики. **12.15** Экстремальное путешествие: Вторая мировая война. **13.05** Нераскрытые тайны второй мировой войны. **14.35** Погоня за ледниками. **15.50** Аляска: Выживание в экстремальных условиях. **16.35** Опасные путешествия. **17.25, 0.05** Путешествия с Гордоном Рамзи. **18.15** Осушить океаны: Побег с Алькатраса. **19.00, 3.10** Осушить океан. **19.45** Гений: Пикассо. **0.50** Сила племени. **4.00, 4.50** Инженерные идеи. **5.35** Игры разума.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 2.05** Камский спиннинг. **6.25, 12.55, 16.55, 20.00, 23.35, 2.35** Охота по-фински. **7.00, 8.55, 13.25, 15.25, 17.30, 22.35, 3.05** Фишермания. **7.25, 13.55, 17.55, 0.40, 3.35** Пофестивалим! **7.55, 14.25, 18.30, 21.35, 1.05, 4.05** Мир рыболова. **8.25, 14.55, 19.00, 22.05, 1.35, 4.30** Территория льда. **9.30, 12.35, 5.45** Охотничья и рыболовная кухня. **9.45, 15.55** Охота и рыбалка в. **10.50, 23.05** Охота в Приволжье. **11.20** Люди дикого севера. **12.05** Рыбалка сегодня. **12.25, 5.30** Самогон. **19.25, 20.35** Рыбалка с Нормундом Грабовскисом. **21.00** На рыбалку с охотой. **0.10, 5.00** Рыболовное путешествие с чемпионом. Беларусь.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.00, 2.05** Дома на деревьях. **6.45, 10.40, 14.45, 18.45, 22.45, 2.50** Кухня народов СССР. **7.00, 11.00, 15.00, 19.00, 23.00, 3.05** Беспокойное хозяйство. **7.30, 16.55** Огород круглый год. **7.40** Огород круглый год. **8.00, 12.00, 16.05, 20.00, 0.00, 4.00** Лучки-пучки. **8.20, 12.20, 16.25, 20.20, 0.20, 4.15** Дачные хитрости. **8.35, 12.35, 16.40, 20.35, 0.40, 4.45** Высший сорт. **8.50, 12.55, 20.50, 0.55, 5.00** Дачных дел мастер. **9.25, 13.25, 1.20** Секреты стиля. **11.30, 19.30, 23.30** Профпригодность. **15.35, 3.30** Праздник в дом. **17.25, 21.25, 5.30** Альтернативный сад. **1.50** С пылу с жару. **4.30** Травовед.

# Нарачанскія рыбакі змагаюцца за возера, у Ракаў прыязджае Караткевіч

## Чым адзначыліся гады Пацука ў гісторыі Валожына і Мядзела

ВАЛОЖЫН
МЯДЗЕЛ



1936 год. Рыбакі на лёдзе зімовай Нарачы. Магчыма, хтосьці з іх браў удзел у змаганні за возера.

Фота Narodowe Archiwum Cyfrowe.

### 1924

Жыхары Мядзельшчыны змагаюцца супраць польскіх уладаў.

У маі атрад партызан на чале са **Станіславам Ваўпшасавым** разграміў памяшканне паліцэйскага пастарунка ў Крывічах. У чэрвені – абяззброілі мясцовых паліцэйскіх. А ў ліпені гэты атрад ужо дзейнічае на Валожыншчыне. Ноччу ад 18 на 19 яны напалі на мястэчка Вішнева. Тут забілі каменданта павятовай паліцыі **Уладзімежа Лапацінскага**. Па дадзеных польскіх спецорганаў, у дыверсантаў была аўтаматычная зброя. А акцыю старанна сплanавалі.

Польскія ўлады пачынаюць караць тых, хто змагаецца супраць яе. У чэрвені 1924 года паліцыя арыштавала жыхара вёскі Шынкавічы **Янку Лапціка**. Яго зацягнулі ў пастарунак і моцна збілі. У жніўні ў Мацках схапілі навучэнцаў Віленскай беларускай гімназіі **Кузьму Янкеля** і **Лявона Баброўіча**. У Дунілавічах іх катавалі. Янкеля скалечылі, той стаў інвалідам.

У Валожыне пабудавалі вуліцу катэджаў для польскіх вайскоўцаў і чыноўнікаў. Адпаведнае рашэнне пра забудову прыняў урад Польшчы.

Граф Міхаіл Тышкевіч прадаў свой валожынскі палацава-паркавы комплекс польскім уладам. Пасля тут размяшчаўся Корпус аховы памежжа.

Вясной нарачанскія рыбакі адстаялі возера Нарач, якое год таму нацыяналізавала польская ўлада. Людзям забаранілі лавіць у ім рыбу. Супрацьстаянне доўжылася год, і ў выніку ўлада адступілася.

У Багданаве, што цяпер у Валожынскім раёне, памёр мастак **Фердынанд Рушчыц**.

### 1948

У мядзельскай школе ўзнікла нелегальная арганізацыя вучняў. Яе пачынальнікам і ідэолагам стаў **Расціслаў Лапіцкі**, пераканаы антыкамуніст і патрыёт. За яго погляды ўлады расстралялі Лапіцкага ў 1950 годзе ва ўрочышчы Красны Беражок на Вілейшчыне.

Да 1948 года да абласнога цэнтра – Маладзечна – сяляне з Мядзельшчыны дабіраліся на спадарожных машынах або падводамі. А 2 сакавіка кожны аўторак і пятніцу з Маладзечна праз Вілейку ў Мядзел стаў хадзіць аўтобус. Тады ж тут пабудавалі аўтавакзал.

У Мядзеле адкрылі радзільню. У Крывічах стварылі калгас імя Жданава. У возера Нарач запусцілі рапушку.

У Івянцы нарадзіўся **Іосіф Ляшчынскі** – будучы харэограф, заслужаны дзеяч культуры БССР. Ён першы з Валожыншчыны, хто атрымаў гэта званне.

### 1936 год

Выйшаў першы зборнік паэзіі «На этапах» **Максіма Танка**, паэта, ураджэнца вёскі Пількаўшчына Мядзельскага раёна.

У вёсцы Навасёлкі, недалёка ад Мядзела, нарадзілася будучая народная артыстка Беларусі **Марыя Захарэвіч**.

Улады закрылі касцёл 18 стагоддзя ў Івянцы і манастыр пры ім. Будынкі выкарыстоўваліся ў якасці склада і крамы.

### 1960

Ліквідаваная Маладзечанская вобласць. Яе тэрыторыя падзелена паміж Мінскай, Гродзенскай і Віцебскай абласцямі.

8 кастрычніка савецкія ўлады закрылі касцёл Святога Іосіфа, што на плошчы ў Валожыне. Там быў склад, цэх па вырабе жалезабетону. Вернікам касцёл вярнулі ў 1991 годзе. Таксама закрылі касцёл у Пяршаях. Яго перабудавалі, знеслі вежы, разрабавалі маёмасць.

Увялі ў эксплуатацыю валожынскі масласырзавод, а ў Івянцы – фабрыку мастацкай керамікі і вышыўкі.

У вёсцы Пугачы на Валожыншчыне нарадзіўся будучы паэт, сёння галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктар Шніп.

Пачынаюцца назіранні за станам водных экасістэм Нарачанскага рэгіёна. Стварылі дом-інтэрнат для састарэлых і інвалідаў у вёсцы Лушчыкі на Мядзельшчыне. Цяпер гэта Свірскі псіханеўралагічны дом-інтэрнат.

### 1972

У Валожыне ў эксплуатацыю здалі двухпавярховы будынак камбіната бытавога абслугоўвання. Тут стала працаваць цырульня, цэх індывідуальнага пашыву, гадзіннікавая майстэрня.

У лютым адкрыўся валожынскі кінатэатр «Юнацтва». Першы фільм, які тут паказалі, называўся «Маладыя».

Матэматык **Якаў Радына** (1936-2016), што з вёскі Брылькі Валожынскага раёна, абараніў кандыдацкую дысертацыю.

На Мядзельшчыне стварылі заказнік «Блакітныя азёры», які пазней увайшоў у склад нацыянальнага парку «Нарачанскі». Выходзяць зборнікі паэзіі Максіма Танка «Ключ жураўліны» і «Хай будзе святло».

### 1984

У 1984 годзе ў Ракаве ў навукоўца **Вячаслава Рагойшы** гасцяваў рускі рэжысёр Сяргей Бадроў (старэйшы) з сям'ёй. Бадровы былі сваякамі жонкі Вячаслава Пятровіча. Тады ж у Ракаве рэжысёр пазнаёміўся з пісьменнікам Уладзімірам Караткевічам і задумаў зняць фільм па рамане «Дзікае паляванне караля Стаха». Але Караткевіч заўчасна памёр.

Ураджэнка Мядзельшчыны народная артыстка **Марыя Захарэвіч** атрымала Дзяржаўную прэмію Беларусі.

### 1996

Мадэрнізуюць кацельню ЖКГ у Мядзеле. Тут з'явіліся два катлы для разагрэву мазуты.

Валожынскае ПК-65 перайменавалі ў прадпрыемства меліярацыйных сістэм.

### 2008

Пяршайскі народны сельскі тэатр адзначыў 55-годдзе, а герой Монтэ Касіна з Івянца **Аляксандр Шакель** – 102-годдзе. Тут жа, у Ракаве, зладзілі канферэнцыю беларускіх і замежных дудароў. У Валожыне пачалі добраўпарадкаваць возера, будаваць станцыю абезжалезвання, адкрылі пасля рамонту кінатэатр «Юнацтва».

У пляжна-паркавай зоне возера Нарач з'явіўся мост на плывучых апорах.

А летам у Мядзеле зладзілі чарговы фестываль-конкурс «Адна зямля», сузаснавальнікам якога з'яўляецца «Рэгіянальная газета». У санаторыі «Нарач» усталявалі інфрачырвоную кабіну.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● КАЛЯНДАР

**3 СТУДЗЕНЯ**

**1958.** У ЗША нарадзіўся **Данчык (Багдан Андрусішын)**, беларускі спявак і журналіст беларуска-ўкраінскага паходжання.

**4 СТУДЗЕНЯ**

**1869.** Нарадзіўся **Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі)**, беларускі празаік, драматург і публіцыст. Памёр 24.01.1924 у Вільні. Адзін з пачынальнікаў беларускай мастацкай прозы. У 1891 – 1897 жыў і працаваў аптэкарам у Радашкавічах. Яго імя ўшанаванае ў мястэчку мемарыяльным каменем.



**5 СТУДЗЕНЯ**

**1580.** Кароль польскі і вялікі князь літоўскі **Стэфан Баторы** ўвёў адзіную грашовую сістэму ў Кароне і Вялікім Княстве Літоўскім.

**1919.** Мінск абвешчаны сталіцай БССР.

**6 СТУДЗЕНЯ**

**1900.** Нарадзіўся **Аляксандр (Алесь) Адамовіч**, в. Васюлькі (цяпер у складзе Княгініна), беларускі савецкі палітычны дзеяч, намеснік наркама земляробства БССР у 1928 – 1929 гадах. Выпускнік Радашкавіцкага павятовага вучылішча. Рэпрэсаваны, загінуў у 1937. Рэабілітаваны.



**7 СТУДЗЕНЯ**

**1795.** Апошні кароль польскі і вялікі князь літоўскі **Станіслаў Аўгуст Панятоўскі** быў сасланы ў Гродна.

**8 СТУДЗЕНЯ**

**1936.** У вёсцы Дамашы ля Маладзечна нарадзіўся **Генадзь Каханоўскі**, беларускі гісторык, краязнаўца, фалькларыст, літаратуразнаўца. Памёр у Маладзечне ў 1994.

**9 СТУДЗЕНЯ**

**1951.** Афіцыйнае адкрыццё будынка штабкватэры ААН у Нью-Ёрку.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

● ХОЧАЦЕ – ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ – НЕ

# Што прынясе 2020 год кожнаму са знакаў задыяка

**Новы год Белага Металічнага Пацука кожнаму нясе нешта сваё. Чытайце, чаго чакаць ад 2020 менавіта вам.**



**АВЕН.** Пачатак новага года праведзяце ў адкрыццях. Магчыма, знойдзеце ў сабе новыя таленты і жаданні. Напрыканцы зімы будзе стомлены стан, таму размеркуйце магчымасць адпачыць у гэты перыяд. А пасля перад вамі з'явяцца магчымасці для кар'ернага росту і самарэалізацыі. Пастарайцеся імі скарыстацца.

Вясной увагі будуць патрабаваць сталыя сваякі. Калі будзеце акуратна абыходзіцца з грашыма, у другой палове года чакае буйная пакупка.

У новым годзе напоўніцу адчуеце свой шарм і набудзеце ўпэўненасць у сабе. Гэта дазволіць шчыра паказваць пачуцці, без чаго немагчыма рухацца наперад у адносінах.



**ЦЯЛЕЦ.** Год пачнецца для вас з дзелавога настрою і фінансавых поспехаў. Але калі партнёр прапануе вам пераключыцца на рамантычныя спатканні, лепш так і зрабіць. Гэта толькі дасць яшчэ больш сіл як на асабістае жыццё, так і на працу.

Калі вы знайшлі каханне ў мінулым годзе, гэты цалкам можа стаць годам вяселля. А вось завесці новы сур'ёзны раман шанцаў няшмат. На працы пастарайцеся завяршыць самыя складаныя праекты да восені. Лепш не пагаджацца на праекты, якія адразу падаюцца арганізаванымі не лепшым чынам.



**БЛІЗНЯТЫ.** Год стане багатым на знаёмствы. Не спяшайцеся выкарыстоўваць гэтыя знаёмствы ў сваіх мэтах. Спачатку больш даведайцеся пра чалавека і паспрабуйце хоць у чым-небудзь дапамагчы самі, перш чым прасіць падтрымкі для сябе. Напрыканцы года зможаце распачаць справу, пра якую даўно марылі.

Надзвычай спрыяльны год для сямейных Блізнятаў. Удача чакае і вас, і ўсю сям'і. Вельмі верагоднае папаўненне ў доме. Хутчэй за ўсё, на вашы планы будзе моцна ўплываць партнёр. У выніку сумесныя прыгоды выльюцца ў рамантычнае доўгачаканае падарожжа.



**РАК.** Ваша энергія ў гэтым годзе будзе біць ключом. Гэта ззянне не зможа не прыцягваць іншых, але вам спатрэбяцца людзі, якія змогуць дапамагчы разгрузіцца пасля нагрузак. У другой палове года будзе ўсміхацца ўдача. А ў апошнія месяцы 2020 надыдзе час чаканых перамен. Гэта можа быць звязана з працай, рамонтам або асабістымі адносінамі.

У Ракаў, якія пакуль не маюць пары, не будзе адбою ад ахвотных заваяваць іх увагу. У сям'і пачнецца перыяд, калі вы можаце стаць крыніцай гармоніі. Вашай дапамогі будуць патрабаваць як дзеці, так і партнёр.



**ЛЕЎ.** Вас чакае год, калі спатрэбіцца паказаць зубы – і каб дамагчыся прасоўвання ў кар'еры, і каб атрымаць жаданыя мэты ў асабістым жыцці. Важна паказаць, што можаце пастаяць і за сябе, і за важных вам людзей. Сёлета спатрэбіцца шмат сіл на вырашэнне штодзённых праблем. Летам галоўнай справай будзе арганізаваць і здзейсніць сапраўдны адпачынак, такі, які пасля будзеце прыгадваць восеньскімі вечарамі.

Калі шукаеце новыя рамантычныя прыгоды, звярніце ўвагу на тых, з кім камфортна бавіць час. Але наўрад ці ваша сэрца хтосьці зможа па-сапраўднаму крануць.



**ДЗЕВА.** Дома будуць чакаць клопаты – шмат увагі прыйдзецца ўдзяліць дзецям, трэба будзе займацца домам. У пачатку года атрымаецца крыху адпачыць, але пасля тэмп паскорыцца – чакаюць прыгоды як на працы, так і ў асабістым жыцці. Каб усе нечаканасці былі прыемнымі, пастарайцеся не губляць галавы і выконваць свае абяцанні своечасова.

У канцы года напаткае раптоўнае знаёмства, якое прынясе шмат пачуццяў. Застанецца гэта проста знаёмствам ці перарасце ў нешта большае, вырашаць толькі вам.



**ШАЛІ.** Пачатак года стане часам, калі ўсё дасягнутае за апошні час будзе працаваць на вас. Ваша задача – падтрымліваць напрацаваны ўзровень і клапаціцца пра сябе. У першыя месяцы года чакае шмат інтрыгуючых прыгодаў. Усплёск эмоцый спустошыць, і пад канец лета адчуеце неверагодную стомленасць.

Восень стане перыядам напружанай працы, але трэба будзе прытрымлівацца балансу паміж рабочымі справамі і адпачынкам. У вас будзе жаданне пайсці на розныя эксперыменты ў каханні, галоўнае – знайсці чалавека, з якім будзеце іх увасабляць.



**СКАРПІЁН.** У пачатку года вашай увагі будуць патрабаваць бытавыя і фінансавыя пытанні. У вас узнікне жаданне адстойваць справядлівасць. Першыя месяцы года будзеце зацята працаваць, што не пакіне шмат часу на асабістае жыццё. Затое вясной атрымаеце асалоду ад рамантыкі, калі самі прыкладзяце для гэтага намаганні.

У другой палове года клопату будуць патрабаваць сталыя сваякі. У канцы года захочацца праявіць сябе ў вучобе. Вам стане сумна і захочацца авантур. Лепшым рашэннем стане паездка з каханым чалавекам.



**СТРАЛЕЦ.** Год рызыкуе пачацца з фінансавых складанасцяў. Пастарайцеся не паглыбляцца ў даўгі і крэдыты. Лепш адкласці пакупкі, нават вельмі патрэбныя, да лета. У першай палове года давядзецца праявіць арганізатарскія здольнасці, і ад вашай ролі будзе шмат залежыць.

Восенню трэба будзе заняцца планаваннем будучага, прычым ад таго, наколькі добра сплануеце, і залежыць ступень іх рэалізацыі. Для вас будзе перыяд, поўны рамантычных прыгод. Сямейныя пары можа чакаць пераломны перыяд, які ці зробіць вас мацнейшымі, ці пакажа, што лепш разысціся. У канцы года з'явіцца шанец змяніць жыццё і купацца ў шчасці і любові.



**КАЗЯРОГ.** Для вас год будзе спрыяльны ва ўсім, што тычыцца ведаў і вучобы. Менавіта набытыя веды дапамогуць вам атрымаць чаканыя перамены ад жыцця. Важна трымаць свае эмоцыі пры сабе і не весціся на правакацыі – гэты шлях не прывядзе да чаканага поспеху.

Вы будзеце пад уражаннем ад сустрэчы з чалавекам, з якім пазнаёміліся яшчэ летась. Гэтыя ўспаміны будуць з вамі цягам першых месяцаў года. Восенню настане перыяд, калі ў вас будуць складвацца як рамантычныя, так і фінансавыя справы. Не шкадуйце энергіі на флірт – ён можа перарасці ў нешта большае.



**ВАДАЛЕЙ.** Вам будзе шанцаваць ва ўсім усю зіму. Але не выдаткоўвайце гэты спрыяльны перыяд на ўсё запар. Абярыце самыя важныя для вас пытанні і назірайце, як яны вырашаюцца.

Бліжэй да лета могуць узнікнуць канфлікты. Магчыма, лепшым рашэннем стане паездка ў іншы горад, а можа, і краіну. У гэтай паездцы атрымаеце новыя знаёмствы, якія дапамогуць вырашыць розныя пытанні. У другой палове года будзе асабліва важнай падтрымка сяброў. Восенню чакае час, калі атрымаеце тое, на што працавалі цягам года. Месцамі сілы для вас стануць установы, дзе атрымліваюць веды.



**РЫБЫ.** Для прадстаўнікоў знака, якія маюць пару, надыдзе перыяд гармоніі і паразумення. У сям'і будзе спагада, а другая палова будзе дапамагаць ва ўсіх справах.

Першыя тры месяцы абяцаюць быць багатымі на падзеі. Пад канец вясны адчуеце стомленасць – вазьміце перапынак і дайце сабе адпачыць. У другой палове года самы час для здзяйснення перамен. Усё тое, чаго даўно хацелі, можна пачынаць – заняцца новай справай, распачаць рамонт, змяніць імідж. Але варта абраць дзве важныя справы і сфакусіравацца усю ўвагу на іх.

Эмілія ХВОЯ.



Дзяды Марозы і Снягуркі прадстаўлялі арганізацыі Вілейскага раёна.



Святочныя персанажы з радасцю фатаграфаваліся з усімі ахвотнымі.



Каля рэзідэнцый Дзядоў і Снягурак чакала іх світа.



У кожнага Дзеда і Снягуркі была персанальная рэзідэнцыя на вілейскай плошчы.

# У Вілейцы зладзілі свята Дзядоў Марозаў і Снягурак

**У суботу, 28 снежня, у Вілейцы зладзілі свята Дзядоў Марозаў і Снягурак.**

Святочныя персанажы прадстаўлялі арганізацыі Вілейскага раёна. Дзяды Марозы і Снягуркі фатаграфаваліся з дзецьмі і вадзілі карагоды.

Усё адбылося на цэнтральнай плошчы. Там жа зрабілі рэзідэнцыі Дзядоў і Снягурак і іх світы. Таксама галоўныя героі Новага года ўдзельнічалі ў танцавальным флэшмобе. Для вілейчукоў і гасцей Вілейкі на плошчы працавалі шапікі з ежай і напоямі.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**



Снягуркі ўдзельнічаюць на сцэне ў танцавальным флэшмобе.

# За беларускія кнігі ўзнагародзілі з Канады

**Беларускі пісьменнік Сяргей Панізнік дзякуе за супрацу над шматтомнікам «Крывіцкія руны» краязнаўцу з Маладзечна Міхасю Казлоўскаму.**




Вокладка кнігі «Крывіцкія руны. Беларускі крывіцкі мацярык у Латвіі».

Дыплом за ўклад у развіццё беларускай культуры за кнігу «Крывіцкія руны» ў трох тамах (2003, 2017, 2019) ад Беларускага інстытута навукі і мастацтва імя Францыска Скарыны ў Канадзе адрасавалі 28 снежня. Падпісаў дыплом старшыня ўстановы доктар **Пётр Мурзёнак**.

– Узрушаны рашэннем Управы Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе паводле вынікаў пражытага года, – дзеліцца Панізнік. – Узнагарода ганаровая і абавязвае падзякаваць не толькі Управе, але і маладзечанскаму майму сутворцу-саюзніку – рашучаму, смеламу, апантананаму, знаходліваму Міхасю Казлоўскаму.

Пісьменнік адзначае, што пасля выдання першага тома «Крывіцкіх рунаў» у 2003 годзе ён стаў актыўна супрацоўнічаць з Казлоўскім. Міхась Міхасевіч – пісьменнік, краязнаўца, бібліяфіл, публіцыст, крытык, выдавец, метадыст Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча. Казлоўскі таксама заахвоціўся вяртаннем імёнаў незаслужана забытых асоб з творчага мацерыка міжваеннай Латвіі.

– Пры маім спрыянні дзякуючы неверагодным намаганням Міхася Казлоўскага выходзіць шэраг кніг, – дадае Панізнік. – «Выбраныя творы» Віктара Вальтара 2009 года. Рукапіс яго рамана «Роджаныя пад Сатурнам» знайшоў у віленскіх архівах Адам Мальдзіс. – «Выбраныя творы» Вольгі Сахаравай і Сяргея Сахарава 2015 года, Пятра Сакола (Масальскага) і Валянціны Казлоўскай 2016 года.

**Аддзел інфармацыі.**

Сяргей Панізнік – беларускі паэт, празаік і публіцыст. Нарадзіўся 10 мая 1942 года ў Даўгінаўскім сельсавеце Мёрскага раёна. Зборнікі паэзіі «Кастры Купалля» (1967), «Палявая пошта» (1972), «Крона надзеі» (1975), «Чало і век» (1979), «Слова на дабрыдзень» (1982), «Мацярык» (1984), «Стырно» (1989), «А пісар земскі…» (1994), «Сустрэча роднасных сусветаў» (1997). Аўтар кнігі публіцыстыкі «Пасля вогненных вёсак…» (1980), дакументальнай аповесці «Браніслава» (1985), «Асвейская трагедыя» (1992).

## У Вілейцы з акустычным канцэртам выступілі лідары гуртоў Sumarok і «Балцкі Субстрат»

**28 снежня ў Вілейцы зладзілі калядны канцэрт. На ім выступілі лідар гурта Sumarok маладзечанец Ігар Палынскі і фронтмэн праекта «Балцкі Субстрат» Максім Іўкін.**




Максім Іўкін.

Рок-гурт Sumarok, які ў 2019-м адзначыў 10-годдзе, выконвае аўтарскія песні пераважна па-беларуску. Да юбілею музыканты запісалі сінгл «Жніво».

«Балцкі Субстрат» грае акустычны фолкблюз, мае шэраг апрацовак традыцыйных беларускіх і балцкіх песень. 2019 год адзначыўся запісам песні «Музыкант» – беларускамоўнага перакладу песні Булата Акуджавы, якая ўвайшла ў афіцыйную складанку «Булат-95» да 95-годдзя Акуджавы.

Імпрэза доўжылася каля трох гадзін і сабрала некалькі дзясяткаў гледачоў. А напярэдадні яе Ігар Палынскі і Максім Іўкін выступілі ў Мінску.

**Аддзел інфармацыі.**

### Парк высокіх тэхналогій адказаў, што думае наконт IT-універсітэта

ВІЛЕЙКА

Адказ ад адміністрацыі парка размясціла адзін з ініцыятараў прыцягнення ВНУ ў Вілейку **Таццяна Цітуленка**.

«Мы з глыбокай павагай ставімся да ініцыятывы наконт пляцоўкі для размяшчэння новай навучальнай установы на тэрыторыі горада Вілейкі. У цяперашні час распрацоўка канцэпцыі новага сучаснага IT-універсітэта знаходзіцца на падрыхтоўчым этапе, і ваша прапанова абавязкова будзе ўлічаная падчас дадзенай распрацоўкі».

**Аддзел інфармацыі.**

### У Маладзечне створаць інавацыйны тэхнапарк

МАЛАДЗЕЧНА

Галоўная мэта тэхнапарка – знаходзіць мясцовых перспектыўных прадпрымальнікаў, вынаходнікаў і падтрымліваць іх у рэалізацыі праектаў на працягу ўсяго шляху. Асаблівую ўвагу нададуць перадавым галінам навукі і тэхнікі.

Будынак размесціцца на вялікай стаянцы мясцовага водаканала плошчай 1200 м². А ў наступным годзе ў тэхнапарку з'явяцца першыя рэзідэнты.

Напаўненне парка будзе звязанае з інжынірынгавымі паслугамі, распрацоўкай канструктарскай дакументацыі на аснове сістэмы беражлівай вытворчасці, а таксама з тэхналогіямі па распрацоўцы прататыпаў. Акрамя таго, наступным этапам праекта стане стварэнне адукацыйнага цэнтратэхнапарка.

У планах да 2024 года даць веды як мінімум 100 жыхарам Маладзечна.

**Паводле Мінаблвыканкама.**

### Мам узнагародзілі ордэнамі

АШМЯНЫ
СМАРГОНЬ

23 снежня Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ №477 аб узнагароджанні жанчын, якія нарадзілі і выхавалі пяць і больш дзяцей, ордэнам Маці. Сярод узнагароджаных ёсць жанчыны з Ашмяншчыны і Смаргоншчыны.

**Ірына Бутрымовіч** – жывёлагадоўца сельгаспрадпрыемства «Граўжышкі» Ашмянскага раёна.

**Тэрэса Даўлевіч** – раздатчык абедаў сельгаспрадпрыемства «Крайванцы» Ашмянскага раёна.

**Марына Крышталь** – фармоўшчык кілбасных вырабаў ААТ «Ашмянскі мясакамбінат».

**Жанна Мальдзіс** – работніца прыватнага гандлёва-вытворчага прадпрыемства «Гандальсэрвісцэнтр» Ашмянскага раёна.

**Вольга Паўлюшкевіч** – работніца Сольскіх дзіцячых ясляў-сада Смаргонскага раёна.

**Паводле сайта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

### Адмяняюць талоны да пасведчання кіроўцы і сертыфікаты тэхагляду

Аляксандр Лукашэнка 30 снежня падпісаў указ №492, якім комплексна карэктуецца пералік адміністрацыйных працэдур, што ажыццяўляюцца дзяржаўнымі органамі і іншымі арганізацыямі па заяве грамадзян.

Адмяняецца неабходнасць афармлення талона да пасведчання кіроўцы і сертыфіката аб праходжанні дзяржаўнага тэхагляду транспарту, рэгламентуецца працэдура выдачы міжнароднага пасведчання

**Паводле БелТА.**

### Куранецкаму дому-інтэрнату падарылі тры халадзільнікі

ВІЛЕЙКА

31 снежня старшыня Вілейскага райвыканкама **Алег Бегунец** сумесна з намеснікам старшыні па сацыяльнай сферы **Святланай Дзяругай** павіншавалі з Новым годам пастаяльцаў Куранецкага дома-інтэрната для састарэлых і інвалідаў.

Яны падарылі інтэрнату тры халадзільнікі.

**Паводле Вілейскага райвыканкама.**

### У Вілейскай паліклініцы адкрылі абноўленую рэгістратуру

ВІЛЕЙКА

27 снежня ў Вілейскай раённай паліклініцы адкрылі абноўленую рэгістратуру.

У рэгістратуры адкрытага тыпу арганізавалі электронную чаргу.

Як падкрэсліў старшыня райвыканкама Алег Бегунец, неўзабаве новаўвядзенні закрануць усю працу паліклінікі, і электронная рэгістратура будзе развівацца.

**Паводле Мінаблвыканкама.**

# Дапамагаюць і тыя, каму самім патрэбная дапамога

**Шэраг дабрачынных мерапрыемстваў зладзілі валанцёры цягам снежня.**



Валанцёры Вікторыя Космач і Эліна Балуш.

Хто такія валанцёры? Для чаго патрэбныя добраахвотнікі ў жыцці грамадства? Пра гэта ішла размова на інтэрактыўным занятку «Спяшайцеся рабіць дабро» ў маладзечанскім цэнтры творчасці дзяцей і моладзі «Маладзік».

> **Валанцёрам можа быць кожны. Для гэтага неабавязкова патрэбныя грошы, ды і занятак можна абраць па душы.**

Можна прыбіраць смецце, падкормліваць птушак і бяздомных жывёл, падклейваць кнігі ў бібліятэцы, дапамагаць пажылым людзям, ладзіць спектаклі для дзяцей-інвалідаў.

## Які ён, валанцёр

На занятку асабліва заахвоціла ўдзельнікаў заданне па стварэнні вобраза валанцёра. Шчырасць, дабрыня, бескарыслівасць, ветлівасць – рысы, якія гучалі часцей за ўсё. А вось знешне, на думку ўдзельнікаў, добраахвотніка могуць выдаць пакеты з адсартаваным смеццем, торба з ежай для суседкі-бабулькі, чырвоны клоўнскі нос, які вяселіць хворых дзяцей.

Чалавек, які лічыць сябе валанцёрам, ніколі не стане «крычаць» аб сваім занятку. Вельмі трапна пра гэта сказаў нямецкі пісьменнік Гётэ: «Сапраўдная дабрачыннасць ніколі не азіраецца на цень свой – на славу».

У канцы гульні каманды атрымалі літары і дарэмна спрабавалі сабраць з іх фразу, пакуль не здагадаліся, што літар не хапае і для паспяховага выканання задання трэба аб'ядноўвацца. Так і ў валанцёрстве: разам – сіла!

## Аздараўліваюць пазітывам

Удзельнікі трэнінгу вырашылі адразу перайсці ад слоў да справы. Літаральна на наступны дзень яны адправіліся ў дзіцячую бальніцу.

– Мы тут, каб падтрымаць хворых дзяцей і прынесці ім радасць, – адзначыла Эліна Балуш з клуба ЮНЕСКА «Планета».

Пачуўшы вясёлыя воклічы Клоўна і ўбачыўшы пацешнага Пінгвіна, маленькія пацыенты імгненна сабраліся вакол іх.

> **Дзецям прыйшліся даспадобы не толькі салодкія падарункі, але і жартоўныя загадкі, гульні і танцы. Як вядома, пазітыўныя эмоцыі, смех і прыемныя зносіны спрыяюць хуткаму выздараўленню.**

Сыходзячы, госці пакінулі ў падарунак кнігі, якія сабралі спецыяльна для бальніцы, каб вольны час дзеці змаглі правесці з карысцю – за чытаннем.

## Натхняюць прыкладам

Валанцёрам можа стаць нават той, хто сам мае патрэбу ў дапамозе. Пацвярджэннем гэтаму стала творчая сустрэча з **Віялетай Банковіч**, якая жыве па прынцыпе «магчымасці абмежаваныя – здольнасці бязмежныя». Дзяўчынка не можа хадзіць, але гэта не стала перашкодай на яе творчым шляху. Яна з задавальненнем займаецца рукадзеллем, спявае, наведвае мастацкую школу.

Асабліва ёй падабаецца ствараць вобразы на графічным планшэце. Кожны такі малюнак набліжае Віёлу да мары стаць мультыплікатарам. За плячыма – мноства перамог. Напрыклад, летась юная мастачка заняла першае месца ў абласным конкурсе малюнкаў «Свет маімі вачыма».

## Мары здзяйсняюцца

Сабраўшы ўсіх за агульным сталом, Віялета распавядала пра самыя яркія моманты жыцця.

> **Запомнілася сустрэча з удзельнікамі «Еўрабачання» гуртом NaviBand.**

На экскурсіі ў Маскве дзяўчынка пагутарыла са спявачкай **Юліяй Самойлавай**.

– Дзякуючы фонду «Белы бусел» мне ўдалося ажыццявіць дзве свае самыя запаветныя мары: падняцца ў неба на верталёце і адчуць сябе фотамадэллю, – з усмешкай успамінае Віялета.



Валанцёр Эліна Балуш падчас гульнявой праграмы ў бальніцы.

У завяршэнні сустрэчы дзяўчынка правяла майстар-клас і навучыла ўдзельнікаў рабіць навагодняе ўпрыгожванне для дома.

Лепшыя вырабы Віялеты Банковіч і іншых дзяцей з інваліднасцю прадставілі на выставе ў час раённага інклюзіўнага фестывалю «Запалі сваю зорку» ў рамках дабрачыннай акцыі «Нашы дзеці». Маленькія зорачкі скарылі гледачоў музычнымі і танцавальнымі талентамі, праявілі пры гэтым незвычайную фантазію і пазітыў.

У свеце так шмат людзей, якім не хапае цяпла, клопату, увагі. І калі кожны з нас зробіць хаця б адну добрую справу, то свет заззяе ад усмешак людзей, якія стануць больш шчаслівымі.

**Ірына СЛІЖЭЎСКАЯ,**
**навучэнка гуртка «Школа журналістыкі».**
**Фота аўтара.**




Фота Андрэя РАГІНСКАГА.

Момант дамашняй гульні з ФК «Івацэвічы» (2:0), перамога ў якім гарантавала маладзечанцам бронзу другой лігі.

# Галоўныя падзеі ў спорце ў рэгіёне за 2019 год

**Ад трыумфу маладзечанскіх футбалістаў і баксёра Асанава да стварэння футбольнай акадэміі ў Ашмянах – усё, чым запомніўся гэты год у нашым рэгіёне.**

### ФК «Маладзечна» выйшаў у першую лігу

Напрыканцы сакавіка футбаліст **Дзмітры Касцюк** з ФК «Маладзечна» даў інтэрв'ю «РГ». Ён распавёў, што мэта каманды ў сезоне – выхад з другой лігі ў першую. На працягу сезона падобныя думкі выказвалі і іншыя прадстаўнікі маладзечанскай каманды.

Апошнюю гульню маладзечанцы правялі 9 лістапада. Акрамя апошняй перамогі ў сезоне, маладзечанцы забяспечылі сябе месцам на наступны сезон у першай лізе.

**У першую лігу таксама выйшлі ашмянцы і дзяржынскі «Арсенал».**

### Смаргонка ўзяла серабро ў Польшчы і згуляла на Еўрабаскеце

**Юлія Рыцікава** са Смаргоні ў мінулым сезоне выступала за польскі «Гожаў», з якім выйшла ў фінал чэмпіянату Польшчы. Яна разам з яшчэ адной беларускай заваявала сярэбраны медаль першынства. Пасля баскетбалістка перайшла ў «Гарызонт» з Мінскай вобласці.

Смаргонская баскетбалістка ў чэрвені выступіла ў складзе нацыянальнай зборнай на чэмпіянаце Еўропы. Беларускія спартсменкі не змаглі выйсці з групавога этапу, прайграўшы вырашальны матч расіянкам.

### Маладзечанскі баксёр перамог на Еўрапейскіх гульнях

**Дзмітры Асанаў** удзельнічаў у Еўрапейскіх гульнях, якія прайшлі ў ліпені ў Мінску.

У фінальным паядынку вагавой катэгорыі да 60 кг маладзечанскі баксёр перамог расіяніна Габіла Мамедава. Па словах Асанава, у ходзе бою ён памяняў тактыку – пачаў рабіць акцэнты на перамяшчэнні і хуткасці джэба замест таго, каб лавіць саперніка на памылках. З пяці суддзяў чацвёра аддалі перамогу маладзечанцу.

Сёлета Еўрапейскія гульні сумясцілі з чэмпіянатам Еўропы. А Асанаў стаў трэцім баксёрам у гісторыі Беларусі, які перамог на еўрапейскім першынстве.

### Маладзечанскае «Дынама» заняло другое месца на Кубку Салея

17-18 жніўня «Дынама-Маладзечна» прымала ўдзел у «фінале чатырох» Кубкаў Салея.

У паўфінальным паядынку, 17 жніўня, лёсаванне звяло маладзечанскую каманду з прадстаўніком Беларусі ў кантынентальнай хакейнай лізе «Дынама-Мінск». Маладзечанцы стварылі сенсацыю: яны перамаглі мінчан з лікам 4:2. Галы забілі **Павел Баярчук**, **Аляксандр Зубрыцкі**, а **Вячаслаў Лісічкін** аформіў дубль.

На наступны дзень падапечныя **Дзмітрыя Краўчанкі** сустрэліся з чэмпіёнам краіны сталічным «Юнацтвам». Гульня завяршылася на карысць мінскай каманды 3:2. Шайбамі адзначыліся Вячаслаў Лісічкін і **Дзмітры Амбражэйчык**.

Маладзечанскі хакей прынёс не толькі пазітыўныя эмоцыі. Следчы камітэт распачаў крымінальную справу ў дачыненні да шэрагу прадстаўнікоў клуба пасля матча «Дынама-Маладзечна» – «Магілёў», які адбыўся 12 лістапада 2019 года.

Дапытаныя ў якасці падазраваных спартсмены пацвердзілі, што названы матч насіў дамоўны характар. Цяпер праводзяцца следчыя дзеянні, накіраваныя на ўсталяванне абставінаў здзяйснення злачынства.

### Брэсцкае «Дынама» адкрыла дзіцячую акадэмію ў Ашмянах

Філіял футбольнага «Дынама» з Брэста адкрылі ў Ашмянах і назвалі «Паўночны Захад». Акадэмія ахоплівае не толькі непасрэдна Ашмяны, а таксама Астравец, Смаргонь, Іўе.

Уся інфраструктура, неабходная для падрыхтоўкі футбалістаў, размешчана кампактна і ўключае ў сабе месца для пражывання і харчавання дзяцей, агульнаадукацыйную школу, а таксама трэніровачны комплекс. Афіцыйнае адкрыццё філіяла прайшло ў лістападзе, а напрыканцы верасня прайшла трэніроўка, дзе адабралі першых вучняў філіяла акадэміі.

Брэсцкае «Дынама» стала чэмпіёнам Беларусі ў гэтым годзе. Не засталіся ў баку ад чэмпіёнства і выхаванцы футбольнай акадэміі «Паўночны Захад». Дзякуючы садзейнічанню начальніка каманды «Дынама-Брэст» **Івана Маліны** чэмпіёнскі кубак прывезлі ў Ашмяны. Хлопцы змаглі ўжывую ўбачыць галоўны футбольны трафей краіны.

### Іван Літвіновіч у складзе зборнай выйграў пуцёўку на Алімпіяду

Ад 29 лістапада да 1 снежня ў Токіа праходзіў чэмпіянат свету па скачках на батуце. На ім выступіў батутыст Іван Літвіновіч з Вілейкі. Спартсмен узяў сярэбраны медаль у самым прэстыжным відзе праграмы – індывідуальных скачках.

**У складзе беларускай каманды хлопец заваяваў золата ў камандных скачках.**

Цяпер Івана Літвіновіча трэніруе **Вольга Уласава**. А да гэта хлопец займаўся ў Вілейскай спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школе алімпійскага рэзерву ў трэнера **Пятра Зайцава**.

### У Смаргоні з'явіўся клуб аматараў бегу

Клуб бегу Followsmorgon афіцыйна зарэгістравалі ў пачатку мая. Па словах стваральніка клуба **Андрэя Арзамасцава**, цяпер сектар спорту і турызму Смаргонскага райвыканкама гатовы даць фінансавую падтрымку ў арганізацыі выездаў на спаборніцтвы.

Ёсць і іншыя плюсы афіцыйнай рэгістрацыі. Усе мерапрыемствы, якія ладзіць клуб, будуць праходзіць пры падтрымцы сектара спорту. Клубу змогуць дапамагчы з трэніровачнай базай.

– Будзем актыўна прыцягваць людзей, прасоўваць далей гэты праект, каб стварыць для людзей моцную альтэрнатыву начным клубам, – кажа Андрэй Арзамасцаў. – З бегавога сезона 2020 года будзем уступаць у барацьбу за ачкі паміж іншымі клубамі.



Падрыхтавала
Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Парадкавы лік прадмета ў радзе яму падобных.
3. Сухая трава.
6. Скручаная ў трубку папера, тканіна, цэлафан.
7. Народнае паданне аб якой-небудзь гістарычнай падзеі, асобе, якое выдаецца і ўспрымаецца як верагоднае.
9. Непачцівыя адносіны.
10. Салодкі безалкагольны напітак з сокам лімона ці іншых фруктаў.
15. Хуткі алюр, сярэдні паміж галопам і шагам.
16. Пашкоджанне арганізма, выкліканае раненнем, ударам, апёкам.
17. Пісьмовае прадпісанне доктара ў аптэку аб прыгатаванні лякарства з указаннем спосабу яго прымянення.
18. Звычайна дуб можа прынесці яго пасля 20-гадовага ўзросту.
21. Складанае, заблытанае размяшчэнне памяшканняў, праходаў, дарог, алей у парку.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Назва кулінарных вырабаў, у склад якіх уваходзяць узбітыя бялкі.
4. Барадулін: «Калі гады, нібы дзяды, На прызбу стомы сядуць з краю, Ён будзе мроіцца тады, ..., які на лютні граe» .
5. Зімовы абутак, боты, зваленыя з шэрсці.
6. Вадзяная пазваночная жывёліна з непастаяннай тэмпературай цела, звычайна пакрытая луской.
8. Невядома, незразумела што.
11. Орган мочавыдзялення ў чалавека і пазваночных жывёл.
12. Прадукт працы, выраблены на продаж.
13. Невялікая пасудзіна з кнотам на паплаўку і алеем, якая запальваецца перад абразамі.
14. Змена, пераўтварэнне.
16. У спорце — укол (удар) у фехтаванні.
19. Нацыянальнай кветкай гэтай краіны з'яўляецца водная лілея, а нацыянальнай жывёлай – каралеўскі бенгальскі тыгр.
20. Фрукт, які ў легендзе пра Геркулеса назвалі «залатым яблыкам».
22. Краіна, якая стала радзімай ёгі.
23. Соль азотнай кіслаты.



## Адказы на крыжаванку з №52

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Жменя. 3. Вафля. 5. Жывот. 6. Жагнаць. 7. Куток. 9. Жарт. 10. Нумар. 13. Ахвяра. 14. Транзіт. 16. Турма. 17. Трошкі. 18. Вадкі. 19. Наверх. 21. Каталог. 22. Афіцэр.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Нерв. 4. Нязгода. 5. Журба. 8. Нітка. 11. Кашпо. 12. Атрута. 14. Тэлескоп. 15. Версія. 17. Тэрмінал. 20. Віза. 23. Сцяг. 24. Кворум.

## ● ГАРАСКОП НА 3-9 СТУДЗЕНЯ

**АВЕН.** Год пачнецца з неабходнасці хутка пераключыцца са святаў на працу. Спатрэбіцца браць на сябе адказнасць і аператыўна вырашаць пытанні. Добра, што працоўныя задачы не будуць патрабаваць шмат часу, таму вы паспееце і адпачыць з сям'ёй, і сустрэцца з сябрамі.

**ЦЯЛЕЦ.** Пастарайцеся ўтаймаваць сваю імпульсіўнасць. Добры час, каб закрыць усе запазычанасці па вучобе або закончыць усе актуальныя вучэбныя праекты. Ёсць магчымасць завязаць рамантычныя адносіны з партнёрам, старэйшым па ўзросце.

**БЛІЗНЯТЫ.** Для вас гэта будзе расслаблены час, таму не варта хапацца за лёсавызначальныя рашэнні. Паспрабуйце аддацца святочнаму настрою, уволю наесціся смакаты і адпачыць. Наперадзе вас чакаць прыгоды.

**РАК.** А вось Ракі цалкам могуць прыняць і ўвасобіць у жыццё рашэнне, якое шмат што зменіць у жыцці. Хутчэй за ўсё, не атрымаецца пазбегнуць канфлікту з партнёрам. Пастаўцеся да сітуацыі з усёй сур'ёзнасцю, ад яе можа залежаць далейшы лёс адносінаў.

**ЛЕЎ.** Самым важным у гэты час для вас будзе сям'я, утульнасць і дамашняе цяпло. Не імкніцеся падмануць Вадалеяў, яны вас раскрыюць адразу. Пазавіце сяброў у госці, пастарайцеся бавіць час з Казярогамі.

**ДЗЕВА.** Спрыяльны перыяд, каб знайсці каханне. Вам захочацца як мага даўжэй быць дома і дарыць цяпло родным. Накрые хваля рамантыкі і прыемных эмоцый. Партнёр аддзячыць вам за ўсё прыемнае, што зробіце вы.

**ШАЛІ.** У вас будзе задача па перадачы важнай інфармацыі. Пастарайцеся сканцэнтравацца на тым, што непасрэдна неабходна па працы. Пастарайцеся не нагружаць страўнік, клапаціцеся пра самаадчуванне.

**СКАРПІЁН.** Вам не захочацца пакідаць сваю зону камфорту, нават працаваць будзеце дома. Магчыма, задумаеце буйную пакупку. Вольны час праводзьце з Рыбамі. Чакайце абвастрэння пачуццяў, вам захочацца абараняць партнёра.

**СТРАЛЕЦ.** Навокал будзе спакой і ўтульнасць, але вам стане сумна. Вам захочацца павесяліцца, і партнёр з паразуменнем паставіцца да такога жадання. Фінансавы бок будзе асабліва актуальны ў гэты перыяд. Прыслухоўвайцеся да Шаляў.

**КАЗЯРОГ.** Нарэшце прыйшоў час, калі вы можаце напоўніцу адпачыць. Вы не будзеце эканоміць на падарунках для партнёра. Падзяліцеся з іншымі вынікамі вашай творчай працы. Вам спатрэбіцца ўвага бацькоў.

**ВАДАЛЕЙ.** Флірт і ненавязлівыя сувязі вам спатрэбяцца для самасцвярджэння. Вам захочацца штосьці памяняць у сваім вобразе і дадаць вострых уражанняў. Прыйдзецца і папрацаваць.

**РЫБЫ.** Вы адчуеце прыліў энергіі і натхнення. Важна будзе падтрымліваць кантакт з людзьмі, якія падзяляюць вашы каштоўнасці. Праводзьце больш часу з братамі і сёстрамі. Пераключыцеся ад сваіх праблем.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 9 | 7 | | 1 | | | | | |
| | 5 | | | 9 | 2 | | | 1 |
| | | 4 | | 6 | | | 5 | |
| 7 | 8 | | | | 3 | | | 5 |
| | 1 | | 8 | | 4 | | | 6 |
| | | | 6 | | 7 | | | 3 |
| 4 | | | | 3 | | | 8 | 7 |
| | | | 4 | | | 1 | 9 | |
| 8 | | 2 | | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY




● ПТУШКА НА ХВАСЦЕ ПРЫНЕСЛА

Была сёння на публічным мерапрыемстве. Задавала пытанне экспертам. У мікрафон. Па-беларуску, ну, бо як жа ж яшчэ?

Пасля мерапрыемства ежа падышла незнаёмая дзяўчына і пачала дзякаваць за беларускую мову.

Бо рэдка яе чуе і бо гэта заўсёды так прыемна, што капец.

Бо сама хоча размаўляць, але саромеецца і баіцца, што могуць не зразумець, што гэта прыцягвае лішнюю ўвагу (баяцца размаўляць у СВАЁЙ краіне на СВАЁЙ мове – ооо, як гэта па-беларуску!).

Бо такія, як я, яе натхняюць і даюць веры, што не ўсё страчана.

І шмат-шмат яшчэ ўсякіх «бо». І ўсё па-беларуску, дарэчы.

Ад такіх прызнанняў і радасна, і горка адначасова.

Такім людзям я заўсёды кажу, што калі яны не пабаяліся падысці да незнаёмага чалавека, каб падзякаваць, – то чаго ўжо тут баяцца размаўляць на сваёй мове? Наперад!

**І яшчэ кажу, што калі быць натхненнем для незнаёмцаў у Беларусі так лёгка, то варта гэтым карыстацца.**

Давайце будзем натхненнем адно для аднаго, беларусы :)

## Чытайце праз тыдзень:

- **Рэлігійны каляндар для вернікаў каталіцкай, праваслаўнай, мусульманскай, будысцкай і іудаісцкай рэлігій на 2020 год з пазнакай самых важных святаў і падзей.**

## 4 студзеня, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 7-8 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я.** ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература -24,6°C у 1987 годзе
Максімальная тэмпература +5,5°C у 1988 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 10,7 мм у 1981 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Чалавек без газеты – як дрэва без лісця. Падпішыся на «РГ»!



### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**

✓ **праз паштальёна**

✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 90 капеек;
- на квартал – 14 рублёў 70 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 15 рублёў;
- на квартал – 45 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Ці верыце вы ў астралагічныя гараскопы?

**Яна Уладыка, перакладчыца, Маладзечна:**
– Дакладна – не. Нядаўна наткнулася на прадказанні Паўла Глобы пра Беларусь для «Работніцы і сялянкі» ў 1989 – цяпер вельмі смешна на ўсё гэта глядзець.



**Таццяна Страмко, прадавец, Маладзечна:**
– Не веру. А веру ў лёс, ён плануецца не гараскопамі. Часам мне вельмі блізкі такі выраз «на ўсё воля божая». А зоркі, карты, астролагі – гэта ўсё проста бізнес.



**Вольга Трыдзенская, гаспадыня, Вілейка:**
– І так, і не. Бывае, што ў гараскопе ўсе сыходзіцца.



**Алена Жук, гаспадыня, Вілейка:**
– Верым, і нават вельмі.



**Уладзімір Басалыга, інжынер, Маладзечна:**
– Я не веру. Гэта больш для мяне забава, бо чакаць ад зорак уплыву на жыццё-быццё не сур'ёзна.



**Ігар Грышкевіч, будаўнік, Даўгінава:**
– Не веру, але раней цікавіўся і аналізаваў. Аднак супадзенняў не было.



**Аляксей Лехнер, спявак, Вілейка:**
– Не. Таму што прадказваць – гэта дар божы, і ён зусім нямногім дадзены. Гараскоп людзі пішуць па статыстыцы лагічнага мыслення.



**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№1 (1288) 3.01.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 5. Падпісана ў друк у 9.00 2.02.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.